ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

15 красавіка 1994 г. № 15 (3737) Кошт 150 руб.





*Аркестр — у студыі. З «птушынага палёту»...*

## ДРУГОЕ НАРАДЖЭННЕ «АГАТКІ»

Гэтыя фотаздымкі занатавалі пэўную гістарычную падзею: на Беларускім радыё ідзе запіс оперы Я. Д. Голанда «Агатка», з нябыту ўваскрасае твор, што пабачыў свет у Нясвіжы 210 гадоў таму.

Славуты Караль Радзівіл — Пане Каханку — заказаў яго Яну Давіду Голанду (спрактыкаванаму кам-пазітару, сябру Ф. Э. Баха), якога запрасіў на працу з Нямеччыны ў Нясвіж. Лібрэта «Агаткі» напісаў сваяк магната, таленавіты музыка Мацей Радзівіл. Паводле некаторых крыніц ён лічыцца сааўтарам музыкі.

Калі польскі кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі наведаў Нясвіж па дарозе на сойм у Гародню, Пане Каханку наладзіў пышны прыём, важным момантам якога быў музычны дарунак — выкананне вялікай оперы (у «Агатцы» 3 акты), створанай па ўсіх канонах тагачаснага еўрапейскага музычнага тэатра. Гісторыя захавала і дату першай пастаноўкі «Агаткі» — 17 кастрычніка 1784 года.

Пасля нясвіжскай прэм'еры «Агатка» з поспехам ішла ў тэатрах Любліна, Варшавы, Познані, Кракава, Львова. Ажно да 1926 г. ёй быў наканаваны шчаслівы тэатральны лёс. А потым доўгі час опера лічылася страчанай і толькі прыгадвалася ў працах польскіх ды рускіх даследчыкаў. У сховішчах Кракаўскай нацыянальнай бібліятэкі партытуру «Агаткі» знайшла беларуская музыказнаўца Вольга Дадзіёмава, пра што яна распавядала на старонках «ЛіМа».

І вось скапіраваная партытура «Агаткі», дзякуючы дапамозе польскіх калег, аказалася на радзіме. Як мяркуе В. Дадзіёмава, гэта, магчыма, сама нясвіжская, а магчыма, самая блізкая ёй па часе і самая поўная копія. З сярэдзіны 20-х гадоў «Агатка» больш не ставілася,

*(Працяг на стар. 3)*



*Дырыжыруе А. Лапуноў.*

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Як для каго, а для нашай рэдакцыі надзвычайнай падзеяй стаў нявыхад чарговага нумара «ЛіМа» ў запланаваны час. Чытачы атрымалі чатырнаццаты нумар не ў пятніцу 8 красавіка, а ў сераду 13-га. Падобныя выпадкі ў гісторыі «ЛіМа» можна пералічыць па пальцах. Калісьці, у часы «перабудовы», газета не выйшла ў тэрмін, бо цэнзура ў апошні момант зняла з паласы матэрыял аб бальшавіцкім тэрору на Беларусі. Цяпер цэнзуры нібыта няма. Сёння прычына несвоечасовага выхаду штотыднёвіка, так бы мовіць, празаічная: не было паперы. Такія нашы сённяшнія рэаліі — «камплектуючых» недастае не толькі прамысловасці, але і культуры. А пробліску хоць бы надзеі на нешта лепшае — ні знаку. Хутчэй наадварот: пагрозліва і неадступна насоўваецца ўсеагульны абвал. А між тым трывожныя галасы шматлікіх чытачоў, якія, не атрымаўшы «ЛіМа» ў пятніцу, званілі ў рэдакцыю, адразу ж лагаднелі, пачуўшы словы пра паперу. Вось калі б нечыя прошукі, калі б цэнзура... А адсутнасць паперы (паліва, металу) — гэта так звычна, гэта так будзённа... Але, але, звыкліся, змірыліся. Яны. Мы. Усе.***

## СВЯТА ТЫДНЯ

12 красавіка — Сусветны дзень авіяцыі і касманаўтыкі. Для Беларусі гэтае свята мае асаблівае значэнне, бо сярод першых дзесяткаў людзей, якія зведалі адсутнасць зямнога прыцягнення, ёсць і два беларусы — Пятро Клімук і Уладзімір Кавалёнак, бо, урэшце, і першы касманаўт Зямлі Юрый Гагарын таксама крыху беларус — ён ураджэнец Смаленшчыны, зямлі, якую спрадвеку называлі беларускай.

## ВАНДРОЎКА ТЫДНЯ

М. Грыб, пра якога гавораць як пра магчымага кандыдата ў прэзідэнты, меў вандроўку на Віцебшчыну. Вандроўка закончылася сустрэчай з выбаршчыкамі і прэсай. У часе сустрэчы М. Грыб урачыста паведаміў, што ён «Савецкага Саюза не развальваў», і таму, значыць, за паслявіскулёўскія праблемы адказнасці не нясе. Закрануў Старшыня ВС і культурныя пытанні. На ягоную думку, сённяшні стан беларускай мовы ў Беларускай дзяржаве тлумачыцца не супраціўленнем чынавенства ўвядзенню яе ў справаводства, сістэму адукацыі, навуку і гэтак далей, а тым, што яна, мова, недастаткова развітая, каб забяспечыць розныя сферы грамадскага жыцця. Мажліва, кажучы пра недастатковы ўзровень развіцця нашай мовы, спікер меў на ўвазе тое, што яна не вытрымае спаборніцтва з другой дзяржаўнай — рускай мовай, аднак жа слова — не верабей, вылецела — не зловіш... Магістральным напрамкам у дзейнасці кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь М. Грыб назваў збліжэнне з Расіяй.

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

15 красавіка афіцыйна пачынаецца прэзідэнцкая перадвыбарчая кампанія. У сувязі з гэтым Валянцін Жданко ў публікацыі «Кепскі той палітык, які не марыць стаць прэзідэнтам» («Звязда», 12 красавіка) піша: «Будучыня Беларусі, праблема захавання яе палітычнай незалежнасці — адзін з галоўных індыкатараў, па якіх нам давядзецца ацэньваць кандыдатаў у прэзідэнты. Для нармальнай дзяржавы было б абсурдна, калі б Прэзідэнтам яе імкнуўся стаць дзеяч, які выступае за скасаванне незалежнасці. У нашых умовах гэта, на жаль, — рэальнасць. І давядзецца пільна прыглядацца да асоб кандыдатаў — памылка можа дорага каштаваць народу Беларусі».

## ПАДВЫШКА ТЫДНЯ

На жаль, гэтая намінацыя ўсё часцей з'яўляецца ў «Коле дзён». Гэтым разам выраслі цэны на гарэлку. Цяпер «Руская» каштуе 9.030, «Пшанічная» і «Сталічная» — 9.180, «Белая Русь» — 9.960 рублёў. Без кошту тары.

## ПАХАВАННЕ ТЫДНЯ

Са сталічным размахам, нібыта нябожчык — генсек альбо прэзідэнт, пахавала баранавіцкая мафія рэкеціра Ярмоліка, забітага 29 сакавіка ў часе спробы ўзяць «транзітны падатак» з камерцыйнага грузу, што ішоў праз Баранавічы з Нямеччыны. 70 інамарак склалі жалобны картэж. 500 чалавек былі запрошаны на хаўтуры. Фактычна мела месца «несанкцыянаваная дэманстрацыя», але гарадскія ўлады зрабілі выгляд, што нічога не адбылося. Як гавораць, ад грэху далей... Але такім чынам рубам паўстае пытанне: хто ў хаце гаспадар?

## ЛІЧБА ТЫДНЯ

Сёння ў Расіі каля двух мільёнаў чалавек афіцыйна маюць статус беспрацоўнага. Сюды трэба дадаць чатыры мільёны (да канца года будзе восем), што належаць да так званага «скрытага» беспрацоўя. Увогуле да канца года праблемы з працаўладкаваннем будуць мець дванаццаць мільёнаў грамадзян Расіі. Гэта больш за насельніцтва Беларусі.

## «ПАГРОЗА» ТЫДНЯ

Астролаг П. Глоба супрацоўнічае з адміністрацыяй Ігналінскай АЭС у Жамойці. Пасля першага агляду памяшкання двух блокаў станцыі астролаг заявіў, што аварыя, якую ён прадказаў яшчэ раней, можа адбыцца ў сакавіку 1997 года. Нагадаем, што Ігналінская АЭС знаходзіцца на мяжы з Беларуссю.

## ПЕРАМЯШЧЭННЕ ТЫДНЯ

Сёння ў сталіцы РФ Масквы адбудзецца сустрэча кіраўнікоў дзяржаў і урадаў СНД. Плануецца стварыць наднацыянальны Міждзяржаўны эканамічны камітэт, пастаяннае месцазнаходжанне якога будзе ў Маскве. Такім чынам, «сталіца СНД» перамяшчаецца з захаду на ўсход, з Мінска ў Маскву?

## ЗАГАЛОВАК ТЫДНЯ

«Белоруссия обменяла часть своего суверенитета на российские рубли» *(«Известия», 14 красавіка).*

## ВЫСТАВА ТЫДНЯ

15 красавіка ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі адкрылася выстава «Прысвячэнне паўстанню 1794 г.». На ёй прадстаўлены творы мастацтва той эпохі.

## ПРАПАНОВА ТЫДНЯ

Быламу міністру ўнутраных спраў Беларусі генерал-палкоўніку У. Ягораву прапанавана пасада пасла РБ у Балгарыі. Гэта можна ўспрыняць як спробу ўрада адкупіцца і як ганаровую ссылку.

## «ПЕРСОНА НОН ГРАТА» ТЫДНЯ

З Беларусі за парушэнне пашпартнага рэжыму выпраўлены грамадзянін Канады Аляксандр Прушынскі, які прыязджаў у нашу краіну долі шукаць — балатавацца на пасаду прэзідэнта.

## ПАРТСХОД ТЫДНЯ

Адбылася ўстаноўчая канферэнцыя, на якой абвешчана аб утварэнні Беларускай нацыянальнай партыі. Мэта партыі — выйсце з крызісу. Сродак — аб'яднанне ўсіх прагрэсіўных сіл вакол нацыянальнай ідэі.

З нагоды

# 12 КРАСАВІКА — ДЗЕНЬ ГАНЬБЫ

***«Аб'яднанне» грашовых сістэм Расіі і Беларусі ўрэшце адбылося. Дзякаваць Богу, толькі на паперы. А папера, як вядома, сцерпіць усё. У тым ліку і здзек з Беларускай дзяржавы, з суверэнітэту і гонару народа Беларусі. Папера сцерпіць ігнараванне палітычнай рэчаіснасці, аб'ектыўных законаў эканомікі.***

Напярэдадні высокапасадныя чыноўнікі, адказныя за палітыку і эканоміку нашай краіны, запэўнівалі грамадства, што нават гаворкі не можа быць пра гандаль суверэнітэтам, што нельга дапусціць, каб Нацыянальны банк Беларусі ператварыўся ў філію Цэнтральнага банка Расіі. І вось дагавор, «плод напряженной восьмимесячной работы», у якім зафіксавана, што, па сутнасці, уся фінансавая палітыка пасля аб'яднання грашовых сістэм будзе ажыццяўляцца Цэнтральным банкам Расіі. Нацыянальны банк Беларусі мусіць перадаць Цэнтральнаму банку усё свае актывы і валютныя сродкі. Канстатуецца таксама, што паколькі гэта палажэнне супярэчыць Канстытуцыі Беларусі (якой, дарэчы, так ганарыцца наш Вярхоўны Савет і асабіста т. Кебіч), дык яна павінна быць прыведзена ў адпаведнасць з дадзеным дагаворам.

В. Кебіч, выступаючы перад прэсай пасля падпісання папер, сказаў, што калі нешта не атрымаецца ў Вярхоўным Савеце (а толькі вышэйшая заканадаўчая ўлада можа ўносіць змены ў Асноўны Закон), дык ён звернецца непасрэдна да народа, наладзіць ці то рэферэндум, ці то апытанне, ці яшчэ што. Прычым прэм'ер-міністр дэманстраваў перад тэлекамерамі ўпэўненасць, што народ Беларусі скажа «так» расійскаму рублю і «не» — дзяржаўнай незалежнасці.

Ва ўрадавай дэлегацыі Беларусі на перамовах у Маскве знайшоўся толькі адзін прынцыповы чалавек, старшыня Нацыянальнага банка спадар Багданкевіч. Ён хоць і падпісаў дакумент, які можа паставіць крыж на існаванні Нацыянальнага банка Беларусі, а з ім і ўсёй крэдытна-грашовай сістэмы нашай краіны, але з сур'ёзнай агаворкай. Свой учынак ён абгрунтаваў нежаданнем парушаць Канстытуцыю, перавышаць свае паўнамоцтвы, замахвацца на прэрагатывы Вярхоўнага Савета.

Згодна дагавору расійскі рубель прыйдзе на Беларусь паступова. Ужо з першага мая будзе адменена плата за транзіт расійскіх грузаў, нафты, газу праз тэрыторыю Беларусі, па сутнасці, пад расійскую юрысдыкцыю пяройдуць базы стратэгічных узброеных сіл на нашай зямлі. Нават цяжка падлічыць, колькі пры гэтым Беларусь страціць так неабходнай ёй (хоць на тыя ж лекі для чарнобыльцаў) валюты. Ну, а расійская грашовая наяўнасць, прышэсця якой так чакае мясцовы люмпен, з'явіцца ў нас толькі пасля ратыфікацыі дагавора Вярхоўным Саветам (ці, як выказваецца саўмінаўская прэса, «после политического волеизъявления народа Беларуси в связи с объединением системы с Россией»). Прычым абмену «зайчыкаў» на расійскія рублі па курсе адзін да аднаго падлягае толькі 200 тысяч рублёў на адну асобу, астатняе — па рэальнай пакупной здольнасці (недзе 5—6 «зайчыкаў» за рубель).

А што далей? А далей Расія возьме ў залог нашы газа- і нафтаправоды, заводы-гіганты (такое цалкам можна дапусціць). І недзе ў верасні мяркуецца здзейсніць і «палітычнае аб'яднанне» Беларусі з Расіяй. Бо, як заявіў В. Кебіч, грашовае аб'яднанне — «это только первый этап большого марафона».

Падпісаны ў Маскве дагавор народзіць у Расіі і ў асяродку расійскай «пятай калоны» на Беларусі хвалю імперскай эйфарыі. Аднак далёка не ўсе ў Расіі ў захапленні ад дагавора. Аўтарытэтны эканаміст, дэпутат Думы спадар Фёдараў, адразу пасля падпісання, каменціруючы падзею, адзначыў, што аб'яднанне грашовых сістэм можа прывесці да змены (падзення) урада РФ, што «беларусы завялі сваю эканоміку ў тупік, а пасля аб'яднання рубля і «зайчыка» непрадказальнай становіцца і расійская эканоміка».

«Гладко было на бумаге, да забыли про овраги. А по ним ходить», — сказаў калісьці расійскі класік. Нібыта пра сённяшні дзень. У дагаворы палітычныя амбіцыі дамінуюць над эканамічнай мэтазгоднасцю. Як на добры розум, дык яго трэба было б яшчэ даводзіць да ладу альбо, па-руску кажучы, «отбросить за ненадобностью» і больш да яго не вяртацца. Але амбіцыі, тым больш палітычныя, не заўжды стасуюцца са здаровым сэнсам.

Гэтым дагаворам Расія зрабіла сваю ўнёску ў прэзідэнцкую выбарчую кампанію на Беларусі. Расія паставіла на Кебіча? І гэтым самым супрацьпаставіла сябе маладой беларускай дэмакратыі, самой ідэі Незалежнасці Беларусі?

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

***На пятай старонцы мы змяшчаем матэрыялы па пытанні «рублёвай зоны», якія ў чымсьці, у святле апошніх падзей, паспелі састарэць, але сэнс гэтай палітычнай акцыі выкрываюць дакладна.***

Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ

# ЗІМНАЕ

*Да бягучага палітычнага моманту*

**Здратаваныя грудзі.
І сэрца
між Дзядамі й наступным
ледзьве б'ецца...
Адпусціце на волю птушку.
Ды падковы парламенцкіх крэслаў
удаўкай на глотцы,
на каліве мары ўваскрэслай...
Знясілены хлопцы.**

**І лязгат затвораў,
і чэргі прамоў і нястачы,
і немасць заводаў —
холад сабачы
народу.**

**Зімее Плошча —
Галоўная Плошча Дзяржавы.
Снегу ці выбеліць
чорныя душы вяртанцаў?**

**Праз Незалежнасць
паўзуць цягнікі,
як джалы,
да канцавое
Маскоўскае станцыі.**

**Цоп бутэліцу,
цоп другую...
У студзён-мяцеліцы
ЗвеЧаркуем?..**

**Заўтра кожнаму —
па мільёну
і падшыты ветрам азадак.
Усплывае пад сонца новы голуб,
дэмакратыю — у асадак?..**

**Эх! Амерыка ты, Амерыка,
чым з табою сягоння памерацца?
Стала яліцай Бурка дойная.
Мы нябожчыкі?
— Нет! Спокойники!..**

Пошта

# БЕЗ КАМЕНТАРЫЯЎ

Рэдакцыя нашай абласной газеты «Гомельская праўда» правяла цікавае, на маю думку, даследаванне. Лічу, што як яго вынікі, так і рэдакцыйны каментарый будуць цікавыя не адно толькі жыхарам нашай вобласці.

Дык вось, у нумары за 1 лютага г. г. проста пад біяграфіяй Мячэслава (напісанне «Гомельскай праўды») Іванавіча Грыба былі змешчаны тры пытанні да чытачоў.

Першае: ці падтрымліваеце Вы ўвядзенне прэзідэнцтва ў Рэспубліцы Беларусь?

Адказы (змешчаны 5 лютага): падтрымліваюць — 46,5%, не падтрымліваюць — 44,5%, адносяцца абыякава да гэтай праблемы — 9%. І такое назіранне рэдакцыі: чым меншы ўзрост апытаных, тым, з аднаго боку, большая ўдзельная вага тых, хто падтрымлівае ідэю прэзідэнцтва, а з другога боку — з павелічэннем узросту змяншаецца доля асоб, якія адносяцца да гэтага абыякава. Прымем да ведама.

Другое пытанне больш цікавае: у якім тыпе асобы палітычнага і дзяржаўнага дзеяча, на Вашу думку, мае патрэбу сёння Рэспубліка Беларусь? І названы дзевяць імёнаў, дзесяты варыянт: іншы (хто?). Вынікі (у тым парадку, у якім быў прыведзены спіс эталонаў): 1. Юры Андропаў — 41,0. 2. Леанід Брэжнеў — 2,9. 3. Ягор Гайдар — 4,2. 4. Міхаіл Гарбачоў — 1,8. 5. Барыс Ельцын — 3,9. 6. Уладзімір Жырыноўскі — 3,4. 7. Уладзімір Ленін — 12,2. 8. Пётр Машэраў — 40,5. 9. Іосіф Сталін — 7,2. 10. Такой асобы няма (? — пытанне ж ставілася аб некім іншым) — 3,7.

Тут цікавы ўжо спіс эталонаў. Чамусьці ў «Гомельскай праўдзе» лічаць, што эталонам можа з'яўляцца выключна камуніст або фашыст. Аднак чытаем пра вынікі гэтага апытання далей.

«Сярод другіх дваццаці названых асоб найбольшую колькасць галасоў атрымалі Георгій Малянкоў — 1,3% і Кірыла Мазураў — 0,9%. Дадаткова называліся імёны Траўкіна, Руцкога, Зюганава, Нямцова, Шахрая, Макашова, Яўлінскага, С. Фёдарава, Вольскага, Бразаўскаса, Хасбулатава, Сталыпіна, Тарасава, Касыгіна, на якія паказалі ад аднаго да чатырох чалавек»...

Стоп! Я ж таксама тэлефанаваў у рэдакцыю і ў адказе на пытанне N 2 назваў імя Станіслава Шушкевіча. У гэтым спісе яго няма. Выходзіць, маё меркаванне наогул не бярэцца ў разлік, лічыцца нечым несапраўдным, таксама, як подпісы чатырохсот сарака тысяч чалавек, пастаўленыя за рэферэндум аб роспуску Вярхоўнага Савета. Цікава, цікава...

Аднак не! Трэба, аказваецца, чытаць далей. І вось што там далей напісана:

«Асобным рэспандэнтам імпанавалі некаторыя кіраўнікі замежных дзяржаў. Аднак іх імёны не мелі дачынення да гэтага пытання (значыць, Ельцын і Бразаўскас кіраўнікамі замежных дзяржаў не з'яўляюцца!!! — заўвага мая). Называліся і некаторыя прозвішчы сённяшніх палітыкаў Беларусі, аднак для гэтага ў нас было асобнае пытанне».

Перачытваю пытанне N 2 з газеты за першае лютага яшчэ раз. Ніякіх абмежаванняў на выбар эталонаў у гэтым пытанні не накладзена. Дзевяць гатовых прозвішчаў і дзесяты варыянт адказу — нехта іншы. І прымаючы мой адказ на гэтае пытанне, мой тэлефанічны субяседнік не

# ДРУГОЕ НАРАДЖЭННЕ «АГАТКІ»

*(Пачатак на стар. 1)*

толькі на польскім радыё запісаны некалькі яе фрагментаў. Пастаноўка «Агаткі» планавалася ў опернай студыі Беларускай акадэміі музыкі, але раптоўная смерць рэжысёра С. Штэйна не дазволіла рэалізаваць задуму.

Але ж старадаўні музычны скарб Нясвіжа адноўлены ў студыі Дома радыё сіламі творчага аб'яднання «Беларуская Капэла», студыі музычных праграм радыё Беларусі, салістаў ДАВТа, сімфанічнага аркестра Дзяржтэлерадыё.

Музыка оперы (а ў ёй 16 нумароў ды уверцюра, прыкладна паўтары гадзіны «чыстага» гучання) зачароўвае і дзівіць прыгажосцю, імклівай дзейнасцю, але яе абаяльная празрыстасць і прастата ўтойвае і шмат «каменьчыкаў» нават для спрактыкаванага творцы. Неаднойчы ў час запісу оперы чулася: «Ну, і салісты былі ў Нясвіжы!» Сапраўды, вакальныя партыі, асабліва галоўных герояў, вымагаюць тонкай вакальнай тэхнікі, галасоў з высокай тэсітурай. Дастойнымі пераемнікамі нясвіжскіх спевакоў выступілі Леся Лют і Рыгор Паліщчук. Увогуле, склаўся ўдалы ансамбль салістаў: Віктар Скорабагатаў, Нагіма Галеева, Міхаіл Жылюк, Васіль Кавальчук. Гэтая праца дала прастору для творчасці Сімфанічнаму аркестру Беларускага радыё і тэлебачання на чале з дырыжорам Анатолем Лапуновым. Уяўная лёгкасць партытуры вымагала дакладнага валодання стылем.



*За пультам — гукарэжысёр Э. МАРТЭНС.*

Адказнай, а, мабыць, і рашаючай у гэтай агульнай працы вялікай супольнасці творцаў была роля гукарэжысёра запісу Эдуарда Мартэнса. Адзін з лепшых майстроў гэтай рэдкай у нас прафесіі, ён заслужана карыстаецца павагай кампазітараў, артыстаў і калектываў усіх музычных напрамкаў — ад акадэмічных да эстрадных. Дарэчы, запісам гэтай оперы Эдуард Генрыхавіч Мартэнс адзначае 30-годдзе сваёй дзейнасці гукарэжысёра Беларускага радыё.

Варта згадаць яшчэ двух пачынальнікаў гэтай справы: музыказнаўцы Вольгі Дадзіёмавай (без яе намаганняў і дагэтуль опера была б палонянкай кракаўскіх архіваў) ды літаратара, перакладчыка Уладзіміра Мархеля, дзякуючы якому нясвіжскія героі загаварылі і заспявалі па-беларуску.

Запісана музыка «Агаткі». Цяпер пачнецца праца акцёраў, якія ўвасобяць яе размоўныя сцэны. І праз 210 гадоў музычны скарб Нясвіжа атрымае другое жыццё на радзіме.

**Людміла МІТАКОВІЧ,**
**загадчыца аддзела беларускай музыкі радыё Беларусі**

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*



*Апошняе ўдакладненне: канцэртмайстар Г. КАРЖАНЕЎСКАЯ (другая справа) з салістамі Л. ЛЮТ, В. СКОРАБАГАТАВЫМ ды Р. ПАЛІШЧУКОМ.*

---

выказаў ніякага пярэчання. Што ж, даволі прафесійна і лоўка.

Аднак жа самае цікавае звычайна бывае напрыканцы. Не выключэнне і тут. Такім чынам, пытанне трэцяе:

«Калі ўсё ж у рэспубліцы прэзідэнцкая ўлада будзе, то з імем якога дзеяча Вы асабіста звязвалі б гэты высокі пост у Беларусі (назавіце адно або два прозвішчы)».

Адразу даю вынікі (зноў жа у тым парадку, у якім быў змешчаны спіс): 1. Васіль Быкаў — 4,2. 2. Мечыслаў Грыб — 12,1. 3. Вячаслаў Кебіч — 11,8. 4. Аляксандр Лукашэнка — 34. 5. Зянон Пазняк — 7,8. 6. Аляксандр Прушынскі — 3,5. 7. Станіслаў Шушкевіч — 9,5. 8. Іншы (хто?) — В. Ганчар — 4,5; Г. Карпенка — 0,9; В. Ціхіня — 0,8. 9. Такой асобы няма — 17,1.

Рэдакцыйны каментарый такі: гэтае апытанне не ў поўнай меры ўлічвае меркаванні жыхароў вобласці, бо большасць званкоў было з абласнога цэнтра. «Калі б мы атрымалі больш адказаў ад жыхароў сяла, то асобныя дзеячы (Лукашэнка, Грыб, Кебіч, Ганчар) маглі б мець больш высокі рэйтынг, а ў другіх (Быкаў, Прушынскі, Пазняк) ён бы апусціўся».

Я пакіну рэдакцыйны каментарый без каментарыя, а звярнуць увагу хацеў бы вось на што. Рэдакцыя прыводзіць узроставы састаў сваіх рэспандэнтаў. І ён вельмі цікавы: да 30 гадоў — 11,3%; 30—39 гадоў — 14,7%; 40—49 гадоў — 20,3%; 50—59 гадоў — 19,1%; старэй за 60 гадоў — 34,6%. Ці не нагадвае апошняя лічба велічыню рэйтынгу таварыша Лукашэнкі?

Аднак галоўная цікавасць нават не ў гэтым. Сярод тых, хто прачытаў першы лютаўскі нумар «Гомельскай праўды» і палічыў неабходным пазваніць у рэдакцыю, людзей маладзейшых за 40 гадоў аказалася ўсяго 26%. Калі звярнуцца да статыстыкі, можна даведацца, што асобы маладзей 40 гадоў складаюць 2/3 усяго насельніцтва. Гэта якраз тыя людзі, якім і трэба вызначыць, у якім грамадстве, у якой краіне ім жыць далей. Аднак жа за мітуснёй паўсядзённых спраў, за бегам жыцця гэтыя людзі «дэлегавалі» сваё прадстаўніцтва старэйшай адной трэці, якія зрабілі 74% званкоў у рэдакцыю. Тут ёсць аб чым задумацца, і вельмі глыбока. Ці не адбудзецца тое самае на выбарах прэзідэнта і новага парламента? Пэўна ж, нехта на гэта вельмі спадзяецца. Давайце ж не забываць аб гэтым.

**Аляксандр УРБАНОВІЧ**

*г. Гомель*

---

# ДОСЫЦЬ САМАСУЦЯШЭННЯ!

## ЧЫТАЮЧЫ ЛІМАЎСКУЮ ПОШТУ

***Час і абставіны кладуць усё ж свой адбітак на людзей, і ў гэтым сэнсе марксісцкая формула «быццё вызначае свядомасць» у многім, пэўна, слушная. Эканамічная нестабільнасць, цэнавая мітульга, сацыяльна-грамадская і палітычная неакрэсленасць, побытавая няўтульнасць — усё гэта стамляе фізічна і прыгнятае духоўна, спараджае абыякавасць.***

***Пра гэта ў нейкай ступені гаворыць і рэдакцыйная пошта. Прынамсі, уражанне такое, быццам яна апошнім часам трошкі знізіла свой колішні настрой бадзёрай радасці, жыццесцвярджальнай упэўненасці, святочнай эйфарыі. Тэматычны абсяг чытацкіх лістоў застаўся, бадай што, той самы, а вось іхні, так бы мовіць, тонус нібы і праўда пацішэў.***

Зрэшты, мо гэта памылковае ўражанне? Мо гэта мы самі паддаліся сённяшнім /не лепшым/ павевам часу і ўспрымаем чытацкія споведзі, скаргі-жальбы і развагі з меншай, чым раней, шчырасцю, даверлівасцю, душэўнай адкрытасцю? Можа, і так! Бо ці не ў кожным чытацкім лісце дае аб сабе знаць, шчыміць і ные боль ад усведамлення таго, што, як і два-тры гады назад, і мова наша ўсё ніяк не займае ў дзяржаве належнага ёй дзяржаўнага становішча, і адукацыя разам з усёй сістэмай выхавання вельмі ж марудна набывае адзнакі нацыянальнай, і кніга беларуская гэтак жа патанае ў моры рускамоўнай, пераважна нізкапробнай, кніжнай прадукцыі, і людзі нашы не ачуньваюць ад летаргіі нацыянальнага нігілізму, і працэс Адраджэння ўпарта тармозіцца адкрытымі і прыхаванымі ворагамі беларушчыны, і гэта тут, дома, на беларускай зямлі!

Іншая рэч, што калі раней, паўторым яшчэ раз, у лістах часта пераважалі эмоцыі, нараканні на лёс, плач і скаргі, канстатацыя фактаў, дык сёння ўжо, здаецца, не тое, сітуацыя памалу мяняецца. Нашы людзі ўсё ж абуджаюцца, і свядомасць беларуса выходзіць на новы вітох. Мы ўжо менш плачамся, мы перастаём баязліва азірацца. Мы смела заяўляем, што мы — правадзейныя і правамоцныя гаспадары ў сваёй дзяржаве. Мы пачынаем разумець, што наш нацыянальны менталітэт і прыроджаная сціпласць не павінны шкодзіць нам самім.

І яшчэ адна заўвага, перш чым звярнуцца непасрэдна да чытацкіх лістоў.

На характары ўзаемаадносін чытачоў і газеты адбілася і тое, што гэтыя ўзаемаадносіны пазбыліся фармалістыкі, чыноўнай шаблоннасці і бюракратычнасці. Раней, у адпаведнасці з партыйнай абавязалаўкай, трэба было адказваць на любы чытацкі ліст, было ў тым лісце што-небудзь ці не было. Чытачы прывыклі да гэтага і досыць часта /згадаем і таннасць паштовых выдаткаў таго часу/ пісалі ў газеты абы пра што, ад няма чаго рабіць. Сёння ж такіх лістоў у рэдакцыйнай пошце няма. Змушае людзей пісаць у рэдакцыю тое, што набалела, чым душа чалавечая прагне падзяліцца з іншымі.

Вось што піша ў «ЛіМ» выкладчык гісторыі з Лёзна **М. Космыкаў**: «Сорамна, што ў Еўропе не магу знайсці другой дзяржавы, якая б без прымусу жадала стаць калоніяй іншай краіны. Сорамна, што народ адракаецца ад сваёй Бацькаўшчыны на карысць чужакоў. Аднак я вельмі добра ўсведамляю, што народ з такой багатай гістарычнай і культурнай спадчынай не можа згінуць, хоць для гэтага робіцца вельмі шмат. Я ганаруся тым, што беларусамі былі Скарына, Гусоўскі, Касцюшка, Каліноўскі, Дамейка, Судзілоўскі, Купала, Колас, браты Луцкевічы, Ластоўскі, Караткевіч, Ткачоў, Адамовіч, што беларусы Быкаў, Шушкевіч, Пазняк і многія іншыя. Я ганаруся тым, што магу размаўляць на такой прыгожай бацькоўскай мове. Я змог пераступіць той сарамлівы парог хамскага ўяўлення аб роднай мове як аб мужыцкай, і размаўляю на ёй штодзень, і стараюся перадаць сваю любоў вучням».

Сённяшні эканамічны, сацыяльна-палітычны і грамадска- культурны крызіс стаў тормазам на шляху беларусізацыі, развіцця роднай мовы. Але мы ўжо не шукаем вінаватых недзе. Мы самі спрабуем разабрацца, чаму так сталася і чаму так робіцца, а не інакш, чаму ўсё ж дагэтуль мы не сталі сапраўды незалежнай дзяржавай і колькі яшчэ мы будзем азірацца толькі на ўсход ды на ўсход.

Ліст чытача з Лёзна як бы дапаўняе /ці працягвае/ ліст з Масквы, а калі больш дакладна — з Маскоўскага таварыства беларускай культуры імя Ф. Скарыны. Ад імя таварыства нашы землякі **Г. Бауліна-Рыжкоўская, Т. Мішчанка, Г. Лех** і **У. Паўлоўскі**, звяртаючыся да дэпутатаў /пэўнай арыентацыі/ Вярхоўнага Савета Беларусі, пішуць: «Але нягледзячы на Вашы намаганні ў аднаўленні былое імперыі і ладу, Вы ўжо няздольны спыніць Беларусь на шляху да волі і шчасця. Вы можаце толькі часова нашкодзіць, запаволіць яе крок, але ўсё, што б Вы беларусам ні зрабілі дрэннае, рана ці позна абернецца супраць Вас».

З песні слова, як кажуць, не выкінеш, маскоўскія беларусы напісалі менавіта вось так, мо занадта рэзка і зласнавата, але ж — не беспадстаўна. На жаль, русіфікатарскія звычкі яшчэ жывуць. І каб жа толькі звычкі! Сёй-той не супраць, каб вярнуўся колішні час з дырэктыўным партыйным лозунгам: «Чым хутчэй мы загаворым па-руску, тым хутчэй пабудуем камунізм». Нават народныя абраннікі не саромеюцца выходзіць на трыбуну Вярхоўнага Савета краіны з антыбеларускімі заявамі. Ёсць ахвотнікі ўзводзіць перашкоды на дарозе вяртання нашай мовы паўнаўладнай гаспадыняй у сваю хату. Зліквідаваць іх можа і павінна толькі сама дзяржава наша праз заканадаўчыя акты /дзякаваць Богу, ёсць ужо і Асноўны закон для гэтага!/, праз адукацыю, друк, радыё, тэлебачанне.

Не прайшло незаўважаным і выступленне на адным з пасяджэнняў сесіі ВС дэпутата Сарокіна, які з імпэтам, вартым лепшага прымянення, выказаўся за так званае двухмоўе, пагібельнае для нашай мовы. Чытач са Слуцка **І. Малашка**, нагадаўшы пра гэты дэпутацкі пасаж, зазначае ў сваім лісце: «Мы, беларусы, не маем права больш заплюшчваць вочы і маўчаць, баючыся, хаця б нас не назвалі нацыяналістамі. Надышоў час перастаць займацца самасуцяшэннем. Сёння марна чакаць якой-небудзь спагады ці дапамогі ад манкуртаў і янычараў у справе нацыянальнага адраджэння. Яны не хочуць успрымаць ні нашай культуры, ні нашай мовы, ні нашых звычаяў, ні нашай дзяржаўнасці. Але нашаму пакаленню сама гісторыя даверыла справу адраджэння Беларусі, і мы не маем права не выкарыстаць усе магчымасці і не здзейсніць свой абавязак...»

17 артыкулам новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь беларуская мова абвешчана адзінай дзяржаўнай мовай. Верыцца, што пасля гэтага «працэс пайшоў» і што ён будзе незваротны. Дзеля таго, каб гэта адбылося, шмат намаганняў прыклала наша нацыянальна-свядомая інтэлігенцыя, шматлікія нястомныя прапагандысты роднага слова.

Пра аднаго з іх расказвае ў лісце старшыня суполкі ТБМ завода парашковай металургіі з Маладзечна **Н. Шунько**. Ліст яе знаёміць нас з настаўнікам гісторыі школы N 5, народным дэпутатам гарсавета, старшынёй Маладзечанскай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны Лявонам Цімохіным. «Ён разам з дырэктарам завода Ігарам Маханьком, — піша чытачка, — ператварыў наш завод у аазіс беларускасці. Навокал пануе родная мова, уся дакументацыя, афішы, аб'явы, заводская газета «Спадчына» — усё па-беларуску. Гэта ён, Лявон Аляксандравіч, адкрыў нам вочы на нашу гісторыю, мову, культуру. Гэта дзякуючы яму і «ЛіМ» чытаюць і выпісваюць у кожным цэху і аддзеле. «ЛіМ» — наша самая любімая газета...»

Дарэчы, лістоў, у якіх чытачы засведчваюць сваю прыхільнасць да нашай газеты, у пошце не так і мала. **Б. Франюк** з Брэста так пачынае свой ліст: «Я сталы падпісчык на «ЛіМ», чытаю яго ўжо не адзін год». А далей чытач дзеліцца набалелым: «Апошнім часам жыццё наша становіцца непрадказальным. Наша папяровая незалежнасць, пэўна, і не даб'ецца да свайго берага, каб стаць на беларускі грунт. Валтузня вакол адзінай рублёвай зоны пры адсутнасці сваёй эканамічнай палітыкі да дабра не давядзе. На мой погляд, праводзіцца пэўная скаардынаваная палітыка пэўных колаў, якія знаходзяцца пры ўладзе, каб не даць беларусам «людзьмі звацца». Трэба ўсім свядомым беларусам аб'ядноўвацца і настройвацца на чорную карпатлівую працу. Растапыранымі пальцамі мы гэты манкуртызм не павядзём за сабою, наадварот — ён можа знішчыць кволыя парасткі на шляху адраджэння. Калі мы не зможам перацягнуць канат на

*(Працяг на стар. 4)*

ЛіМ
ЧАСАПІС



## З МІЖНАРОДНЫМ ДЫПЛОМАМ

**Дыпломы за ўдзел у III Міжнародным фестывалі «Старадаўняя музыка ў гістарычных помніках Масквы» атрымалі беларускія выканаўцы, якія былі запрошаны для ўдзелу ў гэтай імпрэзе. Фестываль быў наладжаны з 2 па 17 красавіка, канцэрты праходзілі ў Расійскай акадэміі мастацтваў, музеі Шаляпіна, культавых будынках і г. д. Больш за 10 краін былі прадстаўлены ў фестывальнай мазаіцы: Італія і Украіна, Англія і Паўднёвая Карэя, ЗША і Беларусь... Беларускі інструментальны дуэт Вячаслаў Зяленін (скрыпка) ды Аляксандр Мільто (арган, клавесін) меў канцэрт у арганнай зале музея імя М. Глінкі; следам за імі ў Маскву выправіўся наш выдатны піяніст Ігар Алоўнікаў. У інтэрпрэтацыі беларускіх майстроў гучала такая папулярная сёння старадаўняя еўрапейская музыка...**

## «АД НАС, АД АКРЫВАЎЛЕНЫХ, НАКАЗ...»

**Пад гукі сумнай, ледзь стрыманай ад болю, часам жалобнай музыкі Грыга да драмы «Пер Гюнт» ідзе ў 16-й групе мінскага вучылішча N 71 машынабудаўнікоў класны час. Гараць толькі свечкі. Іх трапяткі агонь выхоплівае са стэнда здымкі Купалы, Маракова, Галавача, Зарэцкага, Харыка, Вольнага, Кульбака, Каваля, Браніштэйна... Ломкія, звінячыя галасы, у якіх ужо і мужчынская сталасць, прадстаўляюць біяграфічныя звесткі, архіўныя дакументы, паэтычныя радкі тых і пра тых, каму наканавана было стаць чарговай ахвярай.**

**Загаварылі дакументы: «Председателю ЦИК СССР и БССР т. Червякову. Товарищ председатель! Еще раз, перед смертью, заявляю, что я в никакой контрреволюционной организации не был и не собирался быть... Минск, 22-XI-30 г. Янка Купала».**

**І зноў, і яшчэ: «В отношении Янки Купалы, Якуба Коласа, Бровко, Глебко, Крапивы, Бядули, Вольского, Аксельрода и др. членов этой «могучей кучки»... творческая авторитетность которых непомерно раздута, проводивших лично свю описанную выше вражескую работу, имеются многочисленные показания разоблаченных и арестованных врагов...»**

**Гэта радкі са службовай запіскі на імя Сталіна Першага сакратара ЦК КП/б/ П. К. Панамарэнкі ад 21 лістапада 38-га. У выкананні Дзмітрыя Кожана гучыць прарочы верш Ізі Харыка «Адсюль крычу я сэрцам і душою» /датаваны дваццаць пятым годам/ у перакладзе Аркадзя Куляшова «лепшага перакладу не ведаю!/: «І суджана яшчэ адно было нам — пакінуць з песняй гэтую зямлю, таму і шлю без смутку, без тугі я, ад нас, ад акрываўленых наказ...» А Рыгор Ярмак пад гітару, пад свае акорды праспяваў-пракрычаў ад болю верш Валерыя Маракова: «Заяц упаў на снег, стрэл быў сухі і кароткі... Круціцца дым ад крыві, сэрца кранулася й стала... Быццам і жыў і не жыў — глуха зямля застагнала»... Глянуў потым у зборнік паэта, якога праглынуў адзін з курапатаўскіх іроў, а там — «зямля запытала». Думаецца, Валерый Маракоў не быў бы супраць папраўкі юнага спевака-аднадумцы, які жыве ў дзевяноста чацвёртым.**

**А наладзілі вось такі класны час разам з усёй сваёй шаснаццатай групай апантаныя, улюбёныя не толькі ў свой прадмет выкладчыкі фізікі, матэматыкі і майстар вытворчага навучання Галіна Уладзіміраўна Станевічына, Галіна Міхайлаўна Кукушкіна, Вацлаў Бенедыктавіч Станевічус. Ім асабліва дапамагалі кнігі «Таямніцы крамлёўскага двара», «Вернутыя імёны», часопіс «Роднае слова», а таксама Тацццяна Кекелева з Архіва-музея літаратуры і мастацтва Беларусі, Дзіна Звулаўна — удава Ізі Харыка і прэзідэнт асацыяцыі «Ажур» Алег Аўрамчанка.**

**Да новага навучальнага года ў вучылішчы вырашана стварыць музей. Яго арганізатары спадзяюцца, што ў гэтым ім дапамогуць таксама родныя і блізкія ўсіх тых, хто быў кінуты ў бязлітасную сталінскую малатарню.**

Ілья РЭЗНІК

## ГОСЦЬ З ПОЛЬШЧЫ

**У Брэсцкім грамадска-культурным цэнтры па ініцыятыве кафедры беларускага літаратуразнаўства Брэсцкага педінстытута адбылася сустрэча з беларускім пісьменнікам, прафесарам Варшаўскага універсітэта Янам Чыквіным. Вядучы вечарыны прафесар Уладзімір Калеснік пазнаёміў прысутных з асноўнымі вехамі біяграфіі госця. Я. Чыквін расказаў пра асаблівасці развіцця беларускай літаратуры ў Польшчы, прачытаў свае вершы і творы сяброў — беларускіх паэтаў з Польшчы, адказаў на пытанні.**

**У. СУХАПАР,**
бібліёграф абласной бібліятэкі

# ПРЫНЯТЫ Ў САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ





БУТЭВІЧ Анатоль Іванавіч (Максім Валошка). Перакладчык, дзіцячы пісьменнік, крытык. Нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Баяры Нясвіжскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1971). Міністр культуры і друку Рэспублікі Беларусь.

З 1977 года перакладае з польскай, украінскай і рускай моў, а таксама на рускую мову. У перакладах А. Бутэвіча выйшлі кнігі У. Ліпскага «Крутые вёрсты» (Масква, «Палітвыд», 1981), (Кемерава, 1982, 1989), А. Капусціна «Соленая роса» (Казань, 1984), С. Лема «Прыгоды Піркса» (1992), В. Гігевіча «Марсианское путешествие» (1992). Шматлікія пераклады А. Бутэвіча змешчаны ў зборніках твораў Р. Маеўскага, А. Гудзяніса, Шолам-Алейхема і іншых пісьменнікаў. П'есы, узноўленыя па-беларуску А. Бутэвічам, ідуць на беларускай сцэне. Выступае з апавяданнямі і казкамі для дзяцей, піша нарысы і рэцэнзіі.

ГАЛАВАЧ Віталь Цімафеевіч. Празаік. Нарадзіўся ў 1929 годзе ў горадзе Запарожжа. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1963).

Літаратурную працу пачаў у 1955 годзе.

Аўтар кніг прозы «Васёк — матроская душа» (1973), «Заўтра настане» (1987), «Арыядніна ніць» (1991).

ГУРБАН Іван Яфімавіч. Дзіцячы пісьменнік. Нарадзіўся ў 1922 годзе ў вёсцы Юшавічы Нясвіжскага раёна. Скончыў Усесаюзныя завочныя ўліковыя курсы (1953).

Літаратурную працу пачаў у 1950 годзе.

Выдаў кніжкі для дзяцей «Чубаценькі будзільнік» (1979), «Калі ветрык спачывае» (1985), «Пахі вясны» (1991).

ДАВІДОВІЧ Сяргей Фёдаравіч. Паэт. Нарадзіўся ў 1942 годзе ў вёсцы Карпілаўка Лагойскага раёна. Скончыў Мінскую вышэйшую школу Міністэрства ўнутраных спраў (1982). Памочнік начальніка дзяжурнай часці Упраўлення ўнутраных спраў Мінаблвыканкама.

Народны дэпутат Рэспублікі Беларусь.

Літаратурную працу пачаў у 1970 годзе.

Выйшлі кнігі паэзіі «Спасцігнуў я тайну» (1991), «Люстэрка лёсу» (1992, адна паэма) і «Люстэрка лёсу» (1993, шэсць паэм). Беларускімі кампазітарамі шмат якія вершы С. Давідовіча пакладзены на музыку.

ЗАЙЦАЎ Мар'ян Міхайлавіч (Мар'ян Віж). Празаік, гісторык-публіцыст. Нарадзіўся ў 1949 годзе ў Мінску. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1971). Загадчык аддзела штотыднёвіка «Наша слова».

Літаратурную працу пачаў у 1974 годзе.

Аўтар кніг «Чары даўніны» (1989), «Лабірынт» (1991), шматлікіх публікацый у перыядычным друку.

ІДЭЛЬСОН Уладзімір Барысавіч (Уладзімір Лаўроў). Перакладчык, сцэнарыст. Нарадзіўся ў 1926 годзе ў Ленінградзе. Скончыў Мінскі педагагічны інстытут (1953).

Літаратурную працу пачаў у 1956 годзе.

У перакладзе У. Ідэльсона выйшлі кнігі «В'етнамскія апавяданні» (1968, разам з Я. Васілёнкам), «Таджыкскія народныя казкі» (1970), «Кіргізскія народныя казкі» (1971, разам з З. Петрушэняй), «Добры дзень, Вавёрка! Як жывеш, Кракадзіл?» Ю. Дзмітрыева (1983)... Пераклаў на рускую мову дакументальна-мастацкую аповесць Н. Гілевіча «Перажыўшы вайну», змешчаную ў 1989 годзе ў часопісе «Нёман». У літаратурным запісе У. Ідэльсона выйшлі кнігі І. Хімічова, І. Арцём'ева, П. Хадыкі. Аўтар сцэнарыяў (разам з М. Герчыкам) мастацкага фільма паводле апавядання І. Пташнікава «Сцяпан Жыхар», шэрагу дакументальных і навукова-папулярных фільмаў.

ЛАПЦІК Вячаслаў Віктаравіч (Пятро Выспа). Дзіцячы пісьменнік, празаік, публіцыст. Нарадзіўся ў 1952 годзе ў вёсцы Сіманы Мядзельскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1975). Галоўны рэдактар газеты «Дзеці і мы».

Літаратурную працу пачаў у 1975 годзе.

Аўтар зборнікаў апавяданняў «Рыбак» (1987), «Паядынак у ціхай затоцы» (1989), «Ранішняя дарога» (1990), кнігі нарысаў «Мой сум, Нарочча» (1993), шматлікіх нарысаў, артыкулаў і рэцэнзій, змешчаных у рэспубліканскай перыёдыцы. Аўтар п'есы «Гапон і Кацярына», пастаўленай у 1992 годзе Брэсцкім драматычным тэатрам.

ЛУЖКОЎСКІ Віктар Іванавіч. Паэт. Нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Комсенічы Круглянскага раёна. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут (1981). Дырэктар Дома літаратара.

Літаратурную працу пачаў у 1985 годзе.

Аўтар кніг «Смага» (1991), «Лістапад у Траецкім прадмесці» (1993), публікацый у некалькіх зборніках «Дзень паэзіі», рэспубліканскіх газетах і часопісах. На вершы В. Лужкоўскага беларускімі кампазітарамі напісан шэраг песень.

НАЙДЗІН Васіль Іванавіч (Васіль Чаромхін). Празаік, сатырык, гумарыст. Нарадзіўся ў 1944 годзе ў вёсцы Бярозаўка Бялыніцкага раёна. Скончыў Магілёўскі педагагічны інстытут (1973). Загадчык рэдакцыйна-выдавецкага аддзела Сакратарыята Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Літаратурную працу пачаў у 1965 годзе.

Аўтар кніг «Мужчынскія сакрэты» (1981), «Аддаю вам» (1984), «Сустрэнемся ў Барселоне» (1991), «Кветка кактуса» (1992). Апавяданні В. Найдзіна змешчаны ў калектыўных зборніках «Сакрэт фірмы» (1979), «Кубік Рубіка» (1987), «Размова па шчырасці» і «Ад гарэлкі розум мелкі» (абодва 1990). Рэгулярна друкуецца ў рэспубліканскай перыёдыцы.

ЦЫПІС Навум Фроімавіч. Празаік, публіцыст. Нарадзіўся ў 1935 годзе ў горадзе Казацін Вінніцкай вобласці на Украіне. Скончыў Курскі педагагічны інстытут (1960). Працуе ў рэдакцыі часопіса «Вираж».

Літаратурную працу пачаў у 1966 годзе.

Аўтар аповесцяў «Прыгавор» (1976), «Ціхія кіламетры» (1976, разам з Г. Кругловым), «Дзесьці ёсць горад» (1979), рамана «Балканская рама» (1988). Выступае ў галіне апавядання (зборнік «Старыя дарогі»), займаецца літаратурнай апрацоўкай, добра вядомы як публіцыст.

# ДОСЫЦЬ САМАСУЦЯШЭННЯ!

*(Пачатак на стар. 3)*

беларускі бок, значыць, як нацыя мы не адродзімся, а Беларусь стане губерняй Расіі».

Наш даўні карэспандэнт з вёскі Будча Ганцавіцкага раёна **У. Кандраценя** ў сваім допісе піша пра «ЛіМ» з усмешкай: «Калі я яшчэ працаваў, то чакаў нядзелі, каб адпачыць фізічна. А цяпер, калі пайшоў на пенсію, чакаю пятніцы, каб атрымаць «ЛіМ» і адпачыць душой. Дзякуй вам, за добрую газету!..»

Не будзем крывіць душою: чытаць такія лісты — прыемна! Тым не менш, вынікі падпіскі на другі квартал сёлетняга года нас засмуцілі: колькасць нашых падпісчыкаў, на жаль, не павялічылася. Чаму? Хочацца спадзявацца, што газета не стала горшай. Прычына, пэўна, у нязвычнасці, хуткацечнасці, неарганізаванасці падпісной кампаніі. Мо сказаўся і наш уласны пралік: мы абвясцілі падпіску абавязкова на квартал, тым самым пазбавіўшы сяго-таго /а мо і многіх/ магчымасці выпісаць газету спачатку на адзін месяц ці на два. Можа, «паспрыялі» і перабоі з дастаўкай газеты. У рэдакцыйнай пошце ёсць лісты са скаргамі на тое, што «ЛіМ» адсутнічае ў паштовых скрынках. Для прыкладу можна згадаць ліст **Ст. Ушакевіча** з вёскі Малэйкаўшчына Лідскага раёна. Чытач сярдуе: «Хто мяне ашуквае? У аддзеле дастаўкі адказалі, што газету не атрымалі. Дык дзе яна?» І патрабуе ад рэдакцыі: «Дашліце мне, калі ласка, згублены нумар «ЛіМа».

Такі ліст, паўтараем, не адзіны. Таму і вымушаны сказаць: дарагія нашы чытачы-падпісчыкі, рэдакцыя не нясе адказнасці за недастаўку ці несвоечасовую дастаўку газеты, толькі вашы аддзяленні сувязі могуць вырашыць усе пытанні з атрыманнем выпісаных вамі выданняў.

Кожны ліст у рэдакцыю сведчыць, што пішуць нам людзі шчырыя, неабыякавыя, глыбока зацікаўленыя ўсім, што адбываецца ў жыцці дзяржавы і грамадства. Шчырае дзякуй вам усім, дарагія! Дзякуй вам, нашы даўнія, сталыя сябры і прыхільнікі, — **А. Урбановіч** з Гомеля, **М. Бусел** са Светлагорскага раёна, **П. Капчык** з Украіны, **Л. Дубоўскі** з Мар'інай Горкі, **В. Арцём'еў** з Магілёва! Дзякуй вам, **Ю. Баслык** з Вілейкі, **В. Язотчанка** з Гомеля, **М. Цярэнцьеў** з Даўгаўпілса, **Г. Міронмчык** з Маладзечна, **А. Пятруннікаў** з Мурманскай вобласці і многія, многія іншыя. Пішыце нам! Чым больш лістоў мы будзем атрымліваць, тым паўней зможам улічваць у сваёй рабоце вашы чытацкія інтарэсы, тым лепш будзем ведаць грамадскую думку, тым больш дакладна будзем бачыць грамадска-палітычныя і культурна-мастацкія працэсы і больш аператыўна і ўзважана адгукацца на іх. Вашы думкі, меркаванні, прапановы і пажаданні заўсёды знойдуць месца /як знаходзілі і дасюль/ на старонках штотыднёвіка.

**Аддзел пісьмаў і грамадскай думкі**

Меркаванне

# «РАСІЯ АДКРЫВАЕ АПОШНЮЮ КАРТУ»

Магчыма, пагадненне аб валютным саюзе з Расіяй будзе падпісана ў бліжэйшыя дні. Мы яшчэ не ведаем, якое яно будзе, дэкларатыўнае, ці канкрэтнае, калі будзе ратыфікавана і пачне ажыццяўляцца.

Як наіўна думалі і, магчыма, яшчэ думаюць многія з нас, у тым ліку і кіраўнікі дзяржавы, Расія не захоча ўступаць з намі ў адзіную рублёвую зону, бо гэта ёй, маўляў, нявыгадна, што Беларусь быццам бы просіцца на ўтрыманне старэйшага брата.

Выказванні Гайдара і Фёдарава — чыста тактычны ход. Зусім не гэта было прычынай іх адыходу ад непасрэднай выканаўчай улады.

Ці было ў гісторыі, каб вялікая дзяржава адмовілася прыняць у сваё поўнае ўладанне меншую сваю суседку, якая займае выключнае стратэгічнае становішча, з моцнай прамысловасцю, сельскай гаспадаркай, высокай культурай, з добрым, працавітым і выключна міралюбным народам? Ці можна паверыць, што ў Расіі ёсць геапалітычныя інтарэсы ў Сербіі, Персідскім заліве, на Блізкім Усходзе, Міжземным моры, у Афрыцы, Афганістане, на Кубе і нават у Антарктыдзе, і няма іх у суседняй Беларусі?

У Расіі добра ведаюць, што наша кіраўніцтва за апошнія гады нічога не зрабіла для ўмацавання эканамічнай незалежнасці дзяржавы, не мае запасных варыянтаў выхаду з цяжкага становішча, як, напрыклад, Польшча ці краіны Прыбалтыкі. Мы і не жадалі мець гэтых варыянтаў. На Расію і спадзяваліся, і далікатна звальвалі на яе віну за свае промахі. Вялікая суседка і сама рабіла ўсё для таго, каб залежнасць Беларусі ад яе была поўнай і каб крызіс у нас набыў такія памеры. Цяпер Расія адкрыла сваю апошнюю карту ў гульні з намі. Толькі агульны банк і агульны бюджэт! А гэта ж для нас — поўная страта дзяржаўнасці. Калі не памыляюся, гэта віцэ-прэм'ер Расіі Шохін сказаў: «Иначе нечего огород городить».

Зусім магчыма, што Расія з тактычных меркаванняў пойдзе на некаторыя часовыя ўступкі, каб хоць фармальна мы некаторы час лічыліся незалежнымі. Але ж усё фактычна будзе ў іх руках і да таго агульнага бюджэту застанецца адзін крок, калі ва ўладзе ў Беларусі застануцца гэтыя самыя кіруючыя сілы.

Давайце падумаем, што гэта такое — агульны з Расіяй бюджэт. Гэта агульныя падаткі, зарплата, пенсіі, невялікая розніца ў цэнах. 40% агульнага бюджэту, а, можа, і больш пойдзе на ўтрыманне вялікай арміі, ВПК, ахову дзесяткаў тысяч кіламетраў граніц, утрыманне разведкі і контрразведкі. Будзем разам з агульнага бюджэту будаваць авіяносцы, падводныя лодкі, крэйсеры і ледаколы, лазерную зброю і ракеты, палігоны і розныя іншыя важныя аб'екты на прасторах Поўначы, Сібіры, Далёкага Усходу. Ды не толькі ваенныя. Нямала агульнага бюджэту пойдзе на абнаўленне асноўных фондаў Расіі, будову дарог па бяскрайніх яе прасторах, развіццё яе сельскай гаспадаркі /добра помнім усесаюзныя намаганні па ўздыме сельскай гаспадаркі нечарназёмнай зоны РСФСР і што з гэтага атрымалася/ і да т. п.

Ці патрэбна ўсё гэта нам цяпер?

Мала гэтага. У Расіі, такой нестабільнай і непрадказальнай, усур'ёз вывучаюцца праблемы «как нам обустроить Россию», і тут супадаюць ідэі розных палітычных плыняў і дзеячаў, у тым ліку Жырыноўскага і нават Салжаніцына адносна Украіны, Беларусі, Прыбалтыкі, Паўночнага Казахстана і іншых рэгіёнаў і краін былой імперыі.

Ва ўсіх магчымых канфліктах у Крыме, Абхазіі, Асеціі, у Сярэдняй Азіі і мала яшчэ дзе будуць удзельнічаць і нашы хлопцы, не гаворачы ўжо аб матэрыяльных затратах.

Прыхільнікі аб'яднання з Расіяй казыраюць такім аргументам: у адваротным выпадку Масква нам перакрые нафта- і газаправоды; гэта для рэспублікі абернецца катастрофай, бо ў нас няма альтэрнатыўных крыніц для атрымання энерганосьбітаў. Але хіба Расія пастаўляе нам нафту і газ задарма, толькі за «верноподданичество», а не за долары, мяса, масла, трактары, аўтамабілі, электроніку і г. д.?

Чамусьці мы забываем, што расійскі газ ідзе па нашай тэрыторыі ў Еўропу, у зусім незалежныя ад Расіі краіны.

А, можа, пайсці па зусім іншым шляху? Захаваць суверэннасць, незалежнасць і нейтралітэт дзяржавы, грамадзянства, бюджэт, валюту. Усталяваць добрыя, сумленныя адносіны з усімі суседзямі і асабліва з Расіяй. Хай будзе вечная непарушная дружба паміж нашымі народамі і дзеля гэтага можна падпісаць з Расіяй палітычную дэкларацыю. Ёсць усе ўмовы гандляваць на ўзаемна выгадных варунках, развіваць кааперацыю паміж прадпрыемствамі і рабіць гэта яшчэ ў большых маштабах, чым было раней. Хто ж забараняе? У нас агульная граніца. Ні з кім не выгадна гандляваць так, як з Расіяй.

Можна вырашыць пытанні агульнай мытнай палітыкі, барацьбы са злачынствамі на тэрыторыях нашых дзяржаў. Добра было б, каб запрацаваў сапраўдны рынак і канкурэнцыя. Хай бесперапынна ездзяць людзі ў госці з Масквы ў Брэст ці з Мінска ў Смаленск, ходзяць пасылкі і пераводы, аліменты і пенсіі сваім адрасатам. І абменны курс можна выпрацаваць справядліва.

Няхай узаемна ўзбагачаецца наша навука і культура. Будзем глядзець «Останкино» і слухаць маскоўскае радыё, спяваць беларускія і рускія песні. Адначасова трэба дакладна выконваць закон аб мовах, і не будзе ніякай дыскрымінацыі ў паўсядзённым жыцці грамадзян усіх нацыянальнасцей.

Трэба лічыцца з абставінамі, якія склаліся раней і складваюцца цяпер у СНД. Маю на ўвазе пагадненне аб калектыўнай бяспецы. Думаю, не зашкодзіць нашай незалежнасці і нейтралітэту часовае супрацоўніцтва ў сістэме калектыўнай бяспекі СНД — каардынаты аховы сваіх жа граніц, проціпаветранай абароны, падрыхтоўка кадраў, некаторае супрацоўніцтва /кааперацыя/ абаронных прадпрыемстваў, абмен вопытам — і не больш гэтага! Ніякіх сумесных штабоў. І нават парламент не павінен мець правоў пасылаць войскі за межы рэспублікі /ведаем, які маем парламент, і не ведаем, які будзе цераз год/.

Не пералічыць цяжкасцей, якія стаяць на шляху адраджэння. Я назваў толькі некаторыя праблемы, якія, на маю думку, трэба хутка вырашаць. Вялікія, разумныя справы не вырашаюцца хутка. Расіяне павінны зразумець нашыя інтарэсы, як мы разумеем іх. Не трэба забываць, што мы роўныя партнёры.

Неўзабаве надыдуць выбары прэзідэнта і парламента. Добра, калі да ўлады прыйдуць новыя людзі — маладыя, адукаваныя, таленавітыя, хай з рознымі палітычнымі поглядамі, але крыштальна сумленныя патрыёты Бацькаўшчыны. Усё будзе залежыць ад нашай палітычнай свядомасці і адносін да выбараў, ад згуртаванасці дэмакратычных сіл.

**Э. АРОЧКА**

*Слонімскі раён.*

Адгалоскі

# НА ПАЗІЦЫІ «ЦВЁРДАКАМЕННАГА БАЛЬШАВІКА»

Нядаўна прачытаў у «Звяздзе» гутарку з дырэктарам Беларускага інстытута інфарматыкі і прагнозу І. Антановічам. Зразумела, у кожнага чалавека, тым больш навукоўца, сваё бачанне грамадска-палітычнай сітуацыі ў краіне. З нагаданай гутаркі вынікае, што Іван Іванавіч добра арыентуецца ў палітычным лабірынце рэспублікі. Арыентуецца, але...

Некаторыя яго разважанні і сцвярджэнні выклікалі ў мяне сумненні ў іх аб'ектыўнасці і праўдзівасці. Па-першае, цяжка пагадзіцца з І. Антановічам, што ўрад «трымае сітуацыю пад кантролем». Цікава, што гэта за кантроль, калі эканоміка рэспублікі апынулася на краі бездані, а народ у палоне галечы? Я не кажу ўжо аб цэнах на прадукты харчавання, большасць якіх сёння не па кішэні не тое што пенсіянеру, але і чалавеку з сярэднім заробкам. Стала праблемай з-за дарагоўлі схадзіць у лазню, цырульню, выклікаць тэлемайстра і да т. п. Але што наогул не паддаецца лагічнаму асэнсаванню, дык гэта ўстаноўленыя цэны на лекі, бо пражыць без каўбасы і яек яшчэ сяк-так можна, а вось без лекаў хвораму чалавеку... Можна толькі ўявіць, колькі людзей у нас заўчасна памерла, бо, напрыклад, адна ўпакоўка дзінола /прэпарат для лячэння язвы/ каштуе 123000 рублёў. Нават кроплі для вачэй, якія раней каштавалі 27 капеек, цяпер — 11200 рублёў. І колькі б урад наш ні спасылаўся на аб'ектыўныя цяжкасці, сітуацыю з цэнамі на лекі, якія ўзраслі ў дзесяткі тысяч разоў, даравацъ яму нельга. Гэта адзін з сур'ёзнейшых «праколаў» у сацыяльнай палітыцы, сацыяльнай абароне насельніцтва.

А тым часам новы старшыня ВС М. Грыб не перастае цешыць нас абяцанкамі, што здароўе людзей павінна стаць галоўным клопатам дзяржавы. «Павінна стаць...» Калі?

Падтрымліваючы пазіцыю ўрада, І. Антановіч у сваім інтэрв'ю сказаў: «Лепшай за ўрадавую або альтэрнатыўнай ёй праграмы выхаду з крызісу ў апазіцыі няма». Асабіста я, як і многія іншыя грамадзяне Беларусі, не супраць эканамічнага пагаднення з Расіяй. Але аднойчы на пытанне журналістаў, а што, калі аб'яднанне грашовых сістэм не адбудзецца, старшыня ўрада В. Кебіч адказаў: «Нашы прадпрыемствы проста «ўпадуць». Не гаворачы ўжо пра сельскую гаспадарку». Вячаслаў Францавіч сцвярджае, што «іншага шляху паратунку беларускай эканомікі не бачыць».

І ўсё-такі не лішне было б прэм'ер-міністру прыслухацца да /цяпер ужо былога/ старшыні ВС Станіслава Шушкевіча, доктара фізіка-матэматычных навук, які аднойчы падкрэсліў, што «вельмі многія ўраўненні маюць не адно правільнае рашэнне». Пры абмеркаванні ўрадавай праграмы былы спікер даказваў, што ўваход у рублёвую зону не вырашыць усе нашы праблемы. «Мы самі павінны знайсці спосабы станаўлення нашай эканомікі на рыначных стасунках», — гаварыў Станіслаў Станіслававіч.

Звяртае на сябе ўвагу і пазіцыя старшыні Пастаяннай камісіі ВС РБ па пытаннях працы, цэн, занятасці і сацыяльнай абароны насельніцтва Аляксандра Саснова адносна метадаў правядзення эканамічных рэформ. Ён лічыць, што «надзея на рублёвую зону — гэта ілюзія».

Супраць аб'яднання грашовых сістэм Беларусі і Расіі выказаліся і такія нашы вядомыя эканамісты, як дактары эканамічных навук П. Капітула, У. Кулажанка, І. Лемяшэўскі, У. Тарасаў, доктар сельскагаспадарчых навук І. Нікітчанка, якія лічаць, што яно можа прывесці да страты як эканамічнага, так і палітычнага суверэнітэту рэспублікі.

Разумны сэнс падказвае, што паралельна з урадавай праграмай трэба было мець і альтэрнатыўны варыянт развіцця эканомікі на выпадак, калі ўваход у рублёвую зону забуксуе або выявіцца стратным для нашай эканомікі і незалежнасці.

Сёння ўжо відавочна, што Расія адмовілася ад раней узгодненых пазіцый адносна абменнага курсу і аднолькавых цэн на энерганосьбіты. Больш таго, Беларусі ва ультыматыўнай форме прапанавалі ліквідаваць Нацыянальны банк і адкрыць у Мінску філіял Цэнтрабанка Расіі, што вядзе да страты кіраўніцтва нацыянальнай эканомікай.

Расія, абцяжараная сваімі праблемамі, не хоча браць на свае плечы беларускую эканоміку, якая зайшла ў тупік, бо нідзе так марудна не ідуць рэформы, як у нас. Чым мы затое пераўзыходзім іншых, дык гэта эмісіяй грошай, чым эканоміку не ўзнімеш, пра што сведчыць вопыт многіх краін свету.

І хоць перагаворны працэс наконт аб'яднання грашовых сістэм працягваецца, відавочна, што беларускае кіраўніцтва збіта з панталыку. Урад Кебіча, збянтэжаны правалам свайго шырока разрэкламаванага плана, у імя выратавання прэстыжу можа пайсці на заключэнне пагаднення цаною неапраўданых палітычных уступак і страт. Узяць, да прыкладу, хоць бы пагадненне аб уваходжанні дзяржаўнага прадпрыемства па транспарціроўцы газу «Белтрансгаз» у склад расійскага акцыянернага таварыства «Газпром». Пагадненне гэтае ўнесена ўжо ўрадам на ратыфікацыю ў парламент. Гэта ў той час, калі спецыялісты лічаць, што маёмасць «Белтрансгазу» ацэнена на шмат ніжэй яе сапраўднага кошту.

Нягледзячы на ўсе гэтыя памылкі ўрада, І. Антановіч лічыць дзеянні старшыні СМ В. Кебіча адносна захавання суверэнітэту Беларусі «даволі тонкай палітыкай». Але ж, як кажуць, «дзе тонка, там і рвецца». І ці не сведчыць гэтая лаяльнасць былога сакратара і члена Палітбюро Расійскай кампартыі І. Антановіча да ўрада Кебіча яго імкненнем самому заняць адно з урадавых крэслаў?

Мне імпануюць словы Івана Іванавіча, што ён прыхільнік незалежнасці Беларусі, любіць беларускую мову і нават чытае лекцыі студэнтам 4—5 курсаў па-беларуску, хоць «яны разумеюць яе працэнтаў на 20». А вось у гэта ўжо цяжка паверыць.

Дарэчы, стаўленне прафесара-філосафа да беларускай мовы досыць няпэўнае. Ці то надаць ёй статус адзінай дзяржаўнай, ці то — не. І ён звяртаецца да даўно абкатанага ворагамі беларушчыны «аргумента» — большасць жыхароў рэспублікі размаўляе на рускай мове. Быццам не ведае былы наменклатурны работнік ЦК КПБ, адкуль гэтае «веданне» рускай мовы, якімі гістарычнымі акалічнасцямі яно выклікана.

Дастаткова нагадаць, што да пачатку 80-х гадоў ні ў адным горадзе на Беларусі не засталося ніводнай беларускай школы. Усе прадметы ў сярэдніх спецыяльных і ВНУ чыталіся толькі на рускай мове. У многіх сярэдніх школах нават беларускую літаратуру выкладалі на рускай мове. Паводле пастановы Савета Міністраў СССР настаўнікі рускай мовы ў беларускіх школах атрымлівалі зарплату з надбаўкай 15 працэнтаў.

Тыя ж, хто садзейнічаў развіццю нацыянальнай мовы і літаратуры, за гады сталіншчыны былі рэпрэсіраваны як «ворагі народа». Але ўсё гэта не перашкаджае І. Антановічу зараз гаварыць: «Нельга перайсці па ўказу на беларускую мову. Гэта не будзе зразумета грамадствам». Што ён разумее пад «указам» — прыняты Вярхоўным Саветам Закон аб мовах, які надае беларускай мове статус дзяржаўнай?

Адным словам, трымаецца Іван Іванавіч сваіх пазіцый, як «цвёрдакаменны бальшавік». Не мяняецца чалавек, дый годзе. Якім быў, такім і застаўся.

**А. КЛАЧКО**

ЛіМ
ЧАСАПІС



## ПІСЬМЕННІК І ЧЫТАЛЬНІК

**У сувязі з 75-годдзем з дня нараджэння А. Слесарэнкі ў Доме літаратара сабраліся прыхільнікі яго таленту на ўрачыстую вечарыну.**

**Вёў сустрэчу намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі У. Паўлаў. Слова пра юбіляра сказалі народны пісьменнік Беларусі І. Шамякін, В. Зуёнак, А. Пісьмянкоў, В. Супрунчук, П. Прыходзька, народны артыст Беларусі В. Чарнабаеў... Былі шматлікія віншаванні, якія выказалі ад Міністэрства культуры — Н. Загорская і Г. Марчук, ад рэспубліканскага радыё — М. Пацёмкін, ад Беларускай дзяржаўнай філармоніі — Г. Дзягілева, З. Станкевіч, Л. Шурман.**

**І, безумоўна, прысутныя з цікавасцю слухалі самога А. Слесарэнку.**

## МАЛАДЗЕЧАНСКАЯ ЛАТАРЭЯ

**З мэтай фінансавай падтрымкі II Рэспубліканскага фестывалю песні «Маладзечна-94» Маладзечанскі гарсавет вырашыў правесці напярэдадні гэтага музычнага свята, 8 чэрвеня, фестывальную грашова-рэчавую латарэю. Выпускаецца 100 тыс. білетаў коштам па 5000 руб. Доля выйгрышнага фонду ўстаноўлена ў памеры 50 працэнтаў. Для правядзення латарэі створана арганізацыйная камісія.**

**М. КАПЫЛОВІЧ**

## «БЕЛАРУСЬ У ФАНТАСТЫЧНЫХ АПАВЯДАННЯХ»

**Вяртаецца з небыцця творчасць аднаго з пачынальнікаў нашай літаратуры Яна Баршчэўскага. У 1990 годзе выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла ў серыі «Спадчына» ладны томік, куды ў перакладзе М. Хаўстовіча ўвайшоў галоўны твор пісьменніка «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях». А нядаўна прыхільнікі таленту Я. Баршчэўскага сабраліся ў Доме літаратара на вечар, прысвечаны 200-ым угодкам з дня яго нараджэння. Вечарына так і называлася — «Беларусь у фантастычных апавяданнях». Былі прачытаны асобныя з гэтых твораў, а С. Кавалёвым, У. Мархелем, І. Чыгрынам і іншымі было сказана нямала ўхвальных слоў у адрас таго, хто пісаў з думай і пра Беларусь сённяшнюю. А яшчэ прагучалі рамансы на вершы Я. Баршчэўскага.**

## ЮБІЛЕЙ ПАЭТКІ

**Беларуская суполка Санкт-Пецярбурга адзначыла юбілей паэткі Аўгінні Кавалюк. Цёплае слова пра юбілярку сказалі Валянцін Грыцкевіч, Мікола Нікалаеў, Анатоль Кірвель, прадстаўнікі беларускіх таварыстваў Літвы і Латвіі, былыя і сённяшнія вучні Аўгінні Кавалюк.**

**Выконваліся песні, музыку да якіх напісала сама «цётка Аўгіння», як называлі яе ўдзельнікі вечарыны. Атмасфера была нязмушанай і святочнай.**

## ІГАРУ ДЗЯДКОВУ — 60

**Сваё 60-годдзе сустракае вядомы рускі крытык, літаратуразнавец Ігар Дзядкоў. Літаратурнай працай ён займаецца з 1958 года, калі працаваў яшчэ ў Кастраме, у рэдакцыі газеты «Северная правда». Адзін з нямногіх аўтараў блізкага замежжа, хто пастаянна трымае ў полі зроку беларускую літаратуру. Прынамсі, праўдзівасцю, мастакоўскай значнасцю прывабліваюць І. Дзядкова творы Алеся Адамовіча і Васіля Быкава.**

**У 1980 годзе выйшла манаграфія І. Дзядкова «Васіль Быкаў», якая была пазней перавыдадзена, дапоўнена развагамі крытыка пра новыя творы знакамітага пісьменніка. Дарэчы, у свой час уражаннямі ад творчасці В. Быкава І. Дзядкоў дзяліўся і на старонках «ЛіМа».**

**Віншуем Ігара Аляксандравіча з юбілеем! Зычым яму доўгіх год жыцця, новых творчых поспехаў!**

# «МАЛЕНЬКАЯ ДРАМА» — БАЛАДА

За апошні час мы правялі шэраг дыскусій наконт таго, якім быць нашай літаратуры, яе гісторыі, тэорыі, крытыцы. Што ж, гэта нармальна, а пры пэўных умовах і не бескарысна. Разам з тым, вынікі творчасці /і ўласна мастацкай, і «знаўчай»/ здабываюцца і адпаведна ва ўжытак уводзяцца як індывідуальныя. Таму асабліва прыемна, што не ўся энергія выдаткоўваецца на пражэкты, звядзенне рахункаў ці жаласпевы. Нягледзячы на ўсе цяжкасці, можна сказаць — нават насуперак ім, у нас з'яўляюцца вартыя ўвагі творы. Літаратуразнаўчыя, прынамсі. І між іх — кніга Івана Штэйнера «Варожаць балады вякоў».

Добрага слова яна заслугоўвае ўжо таму, што аўтар спакойна, без гучных дэкларацый імкнецца ліквідаваць недахопы, памылкі, прабелы, якія дапускаліся нашай літаратуразнаўчай навукаю раней — міжвольна і свядома. Адразу варта падкрэсліць, што І. Штэйнер даўно аблюбаваў сабе даследчыцкую дзялянку. Больш таго, паводле сённяшняга жаргону, мае ліцэнзію на ўсе віды дзейнасці, шчыруючы ўжо не першы год і не без плёну, пра што сведчаць раней выкананая дысертацыя, манаграфія «Беларуская балада. Вытокі жанру і паэтычная структура», а таксама вучэбны дапаможнік «Балада: Гісторыка-тэарэтычны нарыс».

Па многіх звыклых мерках, Іван Фёдаравіч займаецца няўдзячнай справаю. Тэорыя ў нас ніколі не была ў пашане. А праблемы жанру тым меней, бо мы нязменна кіруемся так званым «здаровым сэнсам», класічная фармулёўка якога ў пытанні: «Каму гэта патрэбна?» Ды патрэбна. Патрэбна! Не толькі дасужаму навукоўцу з акадэмічнай ці вышэйшай навучальнай установы, але і настаўніку, што забываецца, які прадмет яму даверана выкладаць, і студэнту, крый божа як абдзеленаму ўласна тэарэтычнымі курсамі /нота бэнэ: цяпер ужо і універсітэцкія праграмы не маюць асобнага прадмета «Тэорыя літаратуры»/, і школьніку, асабліва ўшанаванаму навамодным выштукараным званнем «ліцэіст», «гімназіст», «каледжыст» /?/.

Але размова пра кнігу І. Штэйнера «Варожаць балады вякоў» змястоўнай можа быць толькі ў тым выпадку, калі мы паспрабуем канкрэтна ацаніць, што новага ўносіць у распрацоўку праблемы згаданая кніга параўнальна з ранейшымі наробкамі як гэтага ж аўтара, так і іншых.

Дагэтуль, займаючыся ўласна беларускай баладай, І. Штэйнер мог абыходзіцца рэгістрацыяй, апісаннем, класіфікацыяй твораў з адпаведнымі жанравымі прыкметамі ў межах нацыянальнага мастацтва слова. Тады і агляд прасцей было рабіць, і назіранні аб'ектыўна дакладней фармуляваліся, і з высновамі спрачацца меней ахвотнікаў знаходзілася. Гэтым разам усё інакш. Бо самі па сабе зыходна акрэсліваліся ў безлічы пытанні: што такое балада першародная і што такое цяперашняя, наколькі адбіваюцца ў ёй этнакультурныя прыкметы; ці не накладаліся на працэс жанратворчасці ў розных літаратурах нейкія уніфікацыйныя працэсы; якую ролю мае тыпалогія, а якую адметнасць; зноў-такі, чаму ўяўленні пра баладу літаратурную пераносяцца на творы фальклорныя, хоць у народзе нашым такога слоўца не пачуць...

Як тэарэтык жанру, калега Штэйнер займае абачлівую пазіцыю: «...балада ніколі не была застылым жанрам», «...жанравай дамінантай апошняй з'яўляецца самае разнастайнае спалучэнне родавых пачаткаў, /.../ яна мае мажлівасць вельмі цесна ўзаемадзейнічаць з іншымі роднаснымі і не вельмі жанрамі».

Бадай, уедлівы апанент можа прывесці доказы таго, што ў пэўны час ў пэўным асяроддзі мела-такі балада цвёрдую форму, «застыгласць», што эвалюцыя жанру ў еўрапейскіх літаратурах ішла двума шляхамі. Апанент з'едлівы, напэўна, не праміне нагоды, каб папрасіць даходлівага тлумачэння, як ад франка-правансальска-італьянскай песні танцавальнай /паводле першаснага азначэння/ утварылася нешта супрацьлеглае — ухвальнае, памінальнае. Зноў-такі, няпроста ўцяміць, што абумовіла яднанне пад тую самую жанравую разнавіднасць такіх твораў беларускай літаратуры, як «Братка і сястрыца» Янкі Купалы і «Балада аб уральскім танку» А. Вялюгіна /прыклады не Штэйнеравы/. Так ці інакш выяўляюцца падставы для спрэчак. Толькі навуковых, разважлівых, канструктыўных. Ужо таму, што меркаванні І. Штэйнера ўдумліва абгрунтоўваюцца, падмацоўваюцца высновамі многіх папярэднікаў. Узяць, да прыкладу, вось гэты ланцужок прыцягнутых азначэнняў, у якіх відавочна градацыя драматычнага пачатку адносна іншых: «сястра навелы» /І. Франко/, «маленькая драма» /П. Ланг/, «маленькая трагедыя» /Л. Залеская/. Іншая справа, як вытлумачваць дэсемантызацыю першаснага тэрміна ў літаратурах — у нашай, і бліжэйшых, і далейшых. Беларусы, відаць, гэта прынялі ў новыя часы. Нездарма на пачатку XX стагоддзя А. Барычэўскі яшчэ ўлічваў раўнавагу жанраваўтваральных складнікаў: «Баладу нярэдка азначаюць шляхам параўнання яе з іншымі жанрамі: то як маленькую ліраэпічную паэму, то як моцна драматызаваную вершаваную навелу». І сучасны даследчык Штэйнер паважліва ставіцца да гэтага назірання, уключае яго ў сістэму сваіх поглядаў. Разам з тым ён арыентуецца на вопыт пазнейшы, які аб'ектыўна прадвызначае іншыя падыходы. Разгляд сучаснага матэрыялу наўрад ці выкліча прынцыповыя пярэчанні. А вось што да гісторыка-літаратурных аспектаў, то тут, відаць, не ўсё будзе прымацца як бясспрэчнае. Напрыклад, залішне катэгарычным можа падацца такі пасаж: «Цяпер мы можам смела сцвярджаць, што ўсходнеславянская балада зарадзілася, адпачкавалася з традыцыйнага пачатку «Слова», што ўпершыню яна выйшла на авансцэну гісторыі іменна ў гэты час». На нашу думку, трэба абавязкова ўдакладніць: уласна, не балада, а тое, што пазней названа баладай і дапасоўваецца да гэтага запазычанага жанравага азначэння. Зрэшты, і нам не варта ўпадаць у катэгарычнасць. Таму спынімся яшчэ толькі на адным параўнанні: падобным чынам зусім нядаўна мы пераасэнсавалі і падхапілі жанравае азначэнне «эсэ» — ды так, што нават спецыялісты не могуць разабрацца, наколькі яно бывае да месца ў канкрэтных выпадках.

Як несумненную вартасць даследавання І. Штэйнера трэба назваць вельмі багаты матэрыял і шырокі кантэкст. Аналізуюцца творы беларусаў і ўкраінцаў, балгараў і рускіх, чэхаў і славакаў, сербаў і славенцаў, харватаў і серба-лужычанаў... Баладыстыка беларусаў прадстаўлена імёнамі вельмі шырока, як сказалі б раней — «ад Скарыны да Скарынкіна».

Але не толькі факталагічная паўната ўласцівая гэтай працы. Яна разнастайная па прынцыпах аналізу, прыёмах суаднясення з'яў і тэндэнцый. Так, паслядоўна выследжваецца тыпалогія развіцця балады ў славянскіх народаў паводле генетычных, гісторыка-культурных, актуальна-эстэтычных фактараў, гэтаксама як і непасрэдных кантактаў — рэальна высветленых і верагодных. Няхай сабе і перабольшваецца значэнне героіка-эпічны элемент у эвалюцыі нашай балады мінулых часоў, але ўвага да сыхо-

*Іван Штэйнер. Варожаць балады вякоў. Беларуская балада і славянскія традыцыі. Мн., Навука і тэхніка. 1993.*

Згадкі

# РЭДКІ САМАРОДАК — КАНСТАНЦЫЯ БУЙЛО

Перакладваў у шафе кніжкі. Позірк затрымаўся на выданнях з аўтографамі. Вось адно з іх — «Світанне». Бяру ў рукі, адкрываю: на левай старонцы партрэт маладой жанчыны. Адкрыты твар, лёгкая ўсмешка, ясныя вочы, густыя валасы. На тытульнай правай старонцы надпіс: «Паважанаму Яўгенію Іванавічу Крэмко з вялікай сімпатыяй за яго шчыры ўдзел у працы па стварэнню музея Янкі Купалы і з сардэчным пажаданнем далейшых поспехаў у гэтай працы. 18.IV.51 г. Кан. Буйло».

У памяці ажылі дні той ранняй вясны. Тады мы, супрацоўнікі музея Янкі Купалы, пад кіраўніцтвам цёці Уладзі заканчвалі новую экспазіцыю ў доме па вуліцы Энгельса, дзе знаходзіўся Саюз пісьменнікаў. Калі Ніна Кудраўцава ў асноўным працавала над бібліяграфіяй твораў, то Ада Гарошка, Яніна Прыбыткова і я цалкам былі заняты падрыхтоўкай матэрыялаў для экспазіцыі, якую выконвалі мастакі Ігар Каргін і Ізя Пелер пад кіраўніцтвам Абрама Кроля.

Звычайна Уладзіслава Францаўна на працы з'яўлялася першай. Загадаў нікому не давала, але цікавілася, хто што будзе рабіць, а сама знікала па якіх-небудзь важных пытаннях: то ў выдавецтва, то ў Інстытут літаратуры АН, то ў гарадскія ўстановы — турбот хапала.

І раптам нечаканае: цёця Уладзя чамусьці спазнялася. Мы недаўменна перакінуліся некалькімі слоўцамі і моўчкі ўзяліся за працу. Праз гадзіну ў калідоры раптам пачуўся моцны голас цёці Уладзі:

— Асцярожна! Тут прыступкі!

Праз хвіліну ў пакой разам з ёй увайшла мажная жанчына сярэдняга веку. Мне кінулася ў вочы яе энергічнасць, усмешка, што не сыходзіла з вуснаў.

— Знаёмцеся, — звярнулася да нас цёця Уладзя. — Гэта мая былая саперніца Канстанцыя Буйло.

Госця села за стол дырэктара, а Уладзіслава Францаўна ўзяла сабе стул, уладкавалася і дастала з шуфляды папку з матэрыяламі музея. Канстанцыя Антонаўна, па-мойму, не вельмі паглыблялася ў змест, з жартамі ўспамінала эпізоды свайго знаёмства з Купалам.

І раптам нечакана прамовіла:

— Уладка! Ты ж ведаеш, Янка больш мяне любіў, чым цябе. Так і не ведаю, чаму ён ажаніўся з табою. — І залілася моцным смехам.

— Вот пустасмешка. Відаць, ён ведаў, каго браць, — неяк сумеўшыся, прамовіла Уладзіслава Францаўна і запрасіла госцю пайсці на другі паверх, дзе афармлялася экспазіцыя.

— Пойдзем з намі, — прапанавала цёця Уладзя мне.

Агледзелі ўсе пакоі. К. Буйло сказала:

— Лічу, што помнік любімаму Янку будзе добры. З часам збярэцца і больш матэрыялаў...

Пасля яна прысела ля стала, дастала з сумкі кніжку, спытала маё імя і пакінула аўтограф.

— Мой падарунак за сумленную працу ў музеі, — і падала мне кніжку, моцна пацiснула на развітанне руку.

Яны пайшлі з музея, а я стаяў і глядзеў праз акно ўслед. Вельмі ж нечаканая і імклівая была сустрэча з паэтэсай, імя якой я ведаў з маленства. Яшчэ жывучы ў вёсцы, верш «Люблю» мы ведалі як народную песню пад назваю «Люблю наш край». На гэтай песні ў майго пакалення выхоўвалася любоў да Радзімы, патрыятызм.

А яшчэ памятаю, у гады дзяцінства мне пашэнціла быць на спектаклі «Мікітаў лапаць», які ў гумне аднаго селяніна ставілі нашы самадзейнікі. Пасля пастаноўкі, калі гледачы апладысментамі ўзнагароджвалі выканаўцаў, яны выйшлі на сцэну і запелі «Люблю наш край». Усе прысутныя ўсталі і далучыліся да іх. Паліцэйскі, які звычайна прысутнічаў на пастаноўцы, падхапіўся і як закрычыць: «Мільчаць!» Але ніхто яго не паслухаўся.

Верш К. Буйло «Каб я мела», як і многія творы Купалы, Коласа і Багдановіча, мы, юнакі, ведалі на памяць і пры кожным зручным выпадку дэкламавалі іх на вечарынках, вячорках і проста на сустрэчах сяброў.

Цяпер, праз сорак гадоў, падумалася: у чым сіла творчасці К. Буйло? Лічу, у тым, што вельмі ж яна моцна звязана з народам, адпавядае яго характару, думкам. Яе мова надзіва народная. Трэба ж, нарадзіўшыся на Валожыншчыне, жывучы на Віленшчыне, не скончыўшы ніякай беларускай навучальнай установы, у нашаніўскі час так добра ведаць мову Наваградчыны і Міншчыны!

Рэдкі самародак у нашым народзе.

**Яўген КРАМКО**

*в. Бережное, Карэліцкі раён*

ЛіМ ЧАСАПІС



## «ГОЛАС ЧАСУ» РАСКАЗВАЕ...

У другім за сёлетні год /сакавік—красавік/ нумары часопіса «Голас часу», што выходзіць у Англіі, змешчана падрабязная інфармацыя аб візіце ў Рэспубліку Беларусь прэзідэнта ЗША Б. Клінтана. А. Баханчык у артыкуле «Устаць! Суд ідзе!» расказвае пра суд над кнігай С. Алексіевіч «Цынкавыя хлопчыкі», падкрэсліваючы, што робіцца гэта ў палітычных мэтах. Нарыс А. Белакоза «Ткацтва ў Гудзевіцкім рэгіёне» — вяртанне да народных вытокаў, гаворка пра народныя таленты. Ю. Весялоўскі разважае над палітычным жыццём у Расіі — «Што сталася з агульнымі выбарамі ў Расеі 12 снежня 1993 года?».

## ПРОМНІ... «ПРАМЕНЯ»

«Прамень» — так называецца часопіс, які выпускаюць нашы землякі-беларусы ў канадскім горадзе Квебеку. На Бацькаўшчыну прыйшоў яго трэці нумар, выдадзены ў канцы мінулага года. Адкрываецца ён радкамі Я. Коласа: «Змоўкні ты, сціхні, песня пакуты, заварушыся, наш край. Люд беларускі, рві свае путы, новую песню спявай». Змешчаны перадрукі з «ЛіМа», «Пагоні», «Астравецкай праўды». Надрукавана некалькі матэрыялаў мясцовага публіцыста Р. Кардонскага, і — сярод іх — развагі «А што мне тая Беларусь?». Аб накірунках выдання, тамашніх справах можна даведацца з рэдакцыйнага звароту да чытачоў.

## ДА ГІСТОРЫІ З ПАВАГАЙ

Прыйшоў да чытача другі выпуск зборніка публіцыстычных артыкулаў «З гісторыяй на «Вы». Ледзь не напісаў «штогодніка», бо акурат так іён і задумваўся выдавецтвам «Мастацкая літаратура», але з-за рознага роду цяжкасцей паміж першым і другім выпускам атрымаўся разбег ажно ў тры гады /1991—1994/. Тым не менш пакладзены пачатак добрай справе выдання кніг, якія б аператыўна рэагавалі на цікавыя публікацыі гістарычнага зместу, дазвалялі аб'ектыўна асвятляць тыя моманты нацыянальнай мінуўшчыны, якія з-за ідэалагічных меркаванняў раней замоўчваліся ці падаваліся ў скажоным выглядзе.

Укладальнік і першага, і другога выпуску — У. Арлоў. Першы выпуск адкрываўся славутай багдановічаўскай «Пагоняй». Гэтым разам у пачатку стаіць вядомая «Малітва» Н. Арсенневай. А пра змест матэрыялаў у многіх гаворыць іх назвы. «Каб жыла Беларусь» — развагі П. Васілеўскага у сувязі з набыццём Беларуссю сапраўднай, а не ўяўнай дзяржаўнасці. Дарэчы, наш лімаўскі калега прадстаўлены ў зборніку яшчэ двума артыкуламі. Заадно зазначым, што ў зборнік увайшлі і іншыя публікацыі, апрабаваныя, так бы мовіць, на старонках «ЛіМа». Прынамсі, нарыс Б. Сачанкі «Мураўёў-вешальнік», «Беларускі лёс Арыны Радзівонаўны» Я. Гучка, «Адкуль пайшла беларуская мова» І. Ласкова...

Нельга не звярнуць увагу на такія матэрыялы, як «Лунай, наш сцяг, ляці, пагоня!» А. Трусава, «Пад уладаю Перуна і Сварога» У. Арлова, «Нацыянальнае пытанне ў праграме дзекабрыстаў» А. Грыцкевіча, «Чалавек з мінулага, або Чаму цяжка сціраць «белыя плямы» ў гісторыі беларускага мовазнаўства» С. Запрудскага, «Полацкія кадэты» таго ж У. Арлова.

Р. Барадулін у эсэ «Унучка Францішка Скарыны, або Зэк N 0-297» па-свойму асэнсоўвае жыццёвы і творчы шлях Л. Геніюш. В. Чаропка /«Зазірнём у дакументы»/ разважае пра грамадзянскую вайну 1431—1437 гадоў у Вялікім княстве Літоўскім, у час якой, як вядома, паражэнне Свідрыгайлы стала паражэннем прыхільнікаў незалежнасці беларускай дзяржавы ад Польскага каралеўства.

А яшчэ б хацелася нагадаць пра артыкулы С. Тарасава «Адкуль прыйшло хрысціянства на Беларусь?», С. Дубаўца і Г. Сагановіча «Старажытная Літва і сучасная Летува», В. Вячоркі «Тысячагадовае суседства» і іншыя.

Усё гэта чакае чытачоў у другім выпуску зборніка «З гісторыяй на «Вы».

## ПІШЫЦЕ, ЯК МЫ ...

Тым, хто ў рэшце рэшт разумее, што ў суверэннай дзяржаве свядомы грамадзянін мусіць выконваць законы, тым больш Закон аб мовах, адрасуецца кніга Алеся Каўруса «Дакументы па-беларуску», выпушчаная выдавецтвам «Беларусь». Слынны мовазнаўца дае шэраг канкрэтных парад накошт таго, як карыстацца дзяржаўнай мовай у паўсядзённай практыцы. Каму? На гэта адказ можна знайсці ў падзагалоўку дапаможніка: «Справаводства. Бухгалтэрыя. Рынчаная эканоміка». Адным словам, пішыце, як мы... Пішыце разам з намі...

Паэзія

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ



# «УСІХ ЛЮБЛЮ І ЦЕШУСЯ ПРАМЕННА...»

## ПАМЯЦІ БАЦЬКІ

Нясці труну — мужчынская работа,
Ўгрызацца ў дол
да зморы і да поту.

Занятак і жаночым ёсць рукам:
Жалобны стол
ладкуецца не сам.

Крыж змайстраваць,
падушачку пашыць
Таму, хто шчэ збіраўся
з намі жыць,

Чыя душа разгублена лунае
І дзе прытулак будзе ёй —
не знае...

●

Мышыным піскам
у ката ў зубах
Ўсе нашы енкі, скаргі і праклёны.
Яшчэ крыху —
і бэндзеш здавалёны,
І ўсё ў былым, далёка — «ох» ды «ах».

Хто можа, той пакорліва, маўчком
Прымае непрадбачаныя плюхі,
Каб божая дзясніца
лёгкім рухам
Перахрысціла
/ўслед за малатком/.

Каму ж пакоры доля не дала,
Той бэсціць разам пекла і нябёсы.
І хто тут выйграе —
ці безгалосы,
Ці бунтаўшчык —
адказу не знайшла...

●

Сон быў крамяным,
Шпаркімі — сцежкі...
Думкай туды палячу.
Вершы трапляліся,
Як сыраежкі, —
Бяры — не хачу.

А зараз каторы
Як знойдзецца —
Свята,
Выпорваеш з гліцы
Густой.
Такою сябе адчуваеш
Багатай
І — не пустой...

## СВІТАЛЬНАЕ

Прачнуцца да аўтобуса. Ляжаць
З паўнюткай галавой,
а семкі-думкі
Ну аніяк не хочуць прарастаць, —
Павольныя, цягучыя, як гумкі.

Усё я перадумала даўно.
Каторы круг?
Не маю уяўлення.
Лепш сніла б каляровае кіно,
Сумбурнае і поўнае значэння.

Напэўна, дзень мой
выдасца цяжкім —
Гнятлівым,
бесталковым,
неласкавым.
Калі мы без прычыны дай
не спім —
Чакай, што апануюць заўтра справы.

Што набяжыць, усё перараблю
І вытрываю.
Так пастанавіла.
Цяпер я на уздыме, бо люблю.
Адкуль адно бярэцца тая сіла?!

Аўтобус за сцяной бярэ разгон,
Прывычна разбудзіўшы паўквартала.
Пужлівы мой,
непаслухмяны сон
Не раз яго гудзенне абрывала.

Патрошку ажывае сонны двор,
Ды я ўжо сну магчымаму не рада.
І што задоўгім атрымаўся твор,
Дык то не я,
а ночка вінавата.

●

Прайсціся скверам...
Распужаць лісты,
Што ўслалі сцежку...
Водар лістапада
Ўдыхнуць,
а ён настоены, густы
І для душы вялікая прынада.

Павее вечаровы халадок
Пранізліва
і трошкі безнадзейна.
І позняя любоў,
і гэты ранні змрок
З'яднаюцца,
зліюцца непадзельна...

●

Ісці і усміхацца —
вось раскоша!
І ноч была як ноч,
і дзень харошы.
Учорашнае змрочным
не здаецца,
А будучыня
хітранька смяецца.
Што мне яна рыхтуе —
не пытаю.
Я гэты міг
істотаю ўбіраю.
І, звязаная з небам
як антэна,
Усіх люблю
і цешуся праменна.

З паэтычнай пошты

Яўген ГУЧОК

# «І КОРАНЬ, І СЦЯБЛО, І ГЛЕБА...»

●

Мы з Богам не сустрэнемся ніколі,
Пакуль патрабаванні да Яго,
Нібы да чарадзея, не адкінем.

●

Пакуль не вернешся
Да мовы роднай, да Радзімы,
Не спадзявайся на сустрэчу з Богам.

●

Бажніц маскоўскіх і варшаўскіх
Мне, беларусу, непатрэбна,
Бо там не стрэнуся я з Богам.

●

Не толькі круг выратавальны Бог,
Ён — і рака, і мора...
Ты вучыся плаваць.

●

На Божай сцяжыне не падаюць:
Не коўзка там, не выбойна...
Ды цяжка ўзысці туды.

●

Быць у Бога за пазухай —
Сярод добрых людзей апынуцца
На дарозе нялёгкай жыцця.

●

«Гайда!», — гэта калі на рэчку;
«Гайда!», — гэта калі ў кіно,
Але аніяк не да Бога.

●

Гэта яшчэ пытанне,
Чый крыж больш пакутлівы —
Бога ці чалавека.

●

Бога можна таксама зводьніць.
Праўда, з сэрца уласнага
Толькі.

●

Для многіх служак Бога
Бог ёсць, нібы фіранка,
Якую можна захінуць ці адхінуць.

●

Калі цябе няма як Чалавека,
То як падтрымку станеш ты шукаць
У Бога?

●

Урыўкамі і прыхваткамі
Да Бога можна ўсё жыццё ісці,
Ісці... і не прыйсці.

●

Чалавек — ён такі...
Ён не толькі даваў бы парады Богу,
Ён караў бы нават Яго.

●

Любові, каб Бога спазнаць,
Заўжды чалавеку мала,
І ён набіваецца на пакуты.

●

А як пачнеш атрэсвацца ад д'ябла,
Глядзіш, і Бог
На дапамогу прыйдзе.

●

Калі ты колас збажыны,
То Бог — і корань, і сцябло,
І глеба.

Васіль САХАРЧУК

# «АБУДЗІЦЬ УЗАЕМНАСЦІ РАСТОК...»

## ПАЛОН

*Івану ДАЦКЕВІЧУ*

1.

Плыт мары з якара здымаю
і, хоць грызе сумнеў-чарвяк,
бы абнадзеены рыбак,
на словы нерат расстаўляю.

Але сягоння мой улоў —
звон цішыні ў радку знямелым:
бы рыбы ў возеры змялелым,
няма ў душы патрэбных слоў.

І хоць грызе сумнеў,
аднак
на ўлоў надзеі не губляю,
зноў плыт бяру і расстаўляю
на словы нерат, бы рыбак.

2.

Бы рыба ў вершу, заплывае ў верш
неасцярожнае і трапяткое слова,
і ты яго ў далонь ліста кладзеш
рукою ўпэўненай у прадчуванні ўлова.

За ім — другое, трэцяе...
Касяк
імклівых рыб у цесны куль сягае
і плешча і трапечацца ў ім так,
што ў захапленні ажно дух займае.

І назаўсёды іх бярэ ў палон
мярэжа строф,
а куль радкоў цяжэе.
І словы-рыбы, свой прыняўшы кон,
не просяць літасці ні ў ямба, ні ў харэя.
Але ў палон узяты імі й ты.
Палон такі наканавала мова.
Кладзецца цень на белыя лісты,
і чуецца:
«Было спачатку Слова...»

## НАШЧАДКУ

Нашчадак мой,
народжаны ў другім тысячагоддзі,
я з будучыні чую твой уладарны крык,
таму адкрый рахунак
і ўспомні пры нагодзе:
цябе яшчэ няма,
а я ўжо твой даўжнік.
Пры мне звялі крыніцы
і выпрасталі рэкі...
Пры мне атрутай сталі
паветра і вада...
Пры мне парою весняй пазначыла навекі
чарнобыльскім таўром зямлю тваю бяда.
Не так усходзіць сонца...
Не так шуміць калоссе...
Прымі як пакаянне
мой горка-думны стан,
каб у жыцці нялёгкім табе не давялося
на лёс сваёй крывінкі
глядзець, як праз туман.

## ЗЕРНЯТКА

Было і будзе да скончэння веку:
зусім нямнога трэба чалавеку —
паспачувай ці словам акрылі,
і твой удзел някідкі незнарок
абудзіць узаемнасці расток
у ім, бы сонца, зернятка ў раллі.

## НЕПАДСУДНАЕ

У кожнай жанчыне сядзіць дзіва-звер,
пяшчотны, як котка, і дзікі, як вепр,
але ты за гэта яе не судзі —
кунеж у ёй котку, дзіка ж не будзі.
І знай, каб яго зачапіць ты не змог,
табе да скончэння зайздросціў бы бог.

## З НІЗКІ «РАДКІ, НАТХНЁНЫЯ Л. М.»

### 1. Зорка

Прамяністаю зоркаю згадка
загарэлася ў цемры начной
і злучыла часы, быццам кладка
берагі над імклівай ракой.

Асвяціла прадонні глухія
і, мае там знайшоўшы сляды,
апынулася ў часе, калі я
быў акрылены і малады.

І як толькі ў натхнёным імкненні
я ўзляцеў над зямлёй, быццам птах,
тры анёлы ў бялюткім адзенні
ўзнеслі ўвысь і цябе на руках.

І сама ты была, бы анёлак,
і, вітаючы радасны міг,
усміхаўся нам чэрвеньскі золак,
ззялі промні на вуснах тваіх.

Светла выплыла сонца з-за гаю,
цішыня ахінула зямлю,
калі мовіў табе я: «Кахаю...»,
калі ты мне сказала: «Люблю...».

Анямела душа і заснула,
каб застацца ў былым, хоць на час,
але згадку, бы кладку, хіснула,
і чароўны агонь яе згас.

Згас, і ўсё ж яна свеціць з былога,
і пра гэта ты знаеш сама,
і святлей ад яе анічога
на зямлі і на небе няма.

### 2. Пад поўневым святлом

*Мысль изреченная есть ложь.*
*Ф. ЦЮТЧАЎ*

Саджуся ля акна
і згадваю ў самотнай цішыні:
«Прамоўленая думка ёсць мана...» —
сказаў паэт і не схлусіў ані.

Калі гарыць-палае слоўны жар,
ягоны попел не прыкметны на губе,
і рэдка хто не траціць божы дар
няздольнасці хлусіць ні людзям, ні сабе.

Але цяпер, пакуль амаль паўсвету спіць,
пакуль пануе ноч і людзям сняцца сны,
вяртаецца ім дар няздольнасці хлусіць,
і вусны іх не ведаюць маны.

## ВАСІЛЮ ГАДУЛЬКУ

*На развітанне*

І слых, і музыку, і мову
далі табе нябёсы ў дар,
і ты прынёс, бы на алтар,
і слых, і музыку, і мову.
І я шапчу, нібы замову,
каб не згарэў твой дух у скварі:
і слых, і музыку, і мову
далі табе нябёсы ў дар.

## ПАМЁР МОЙ ВОРАГ...

*З Танё КЛІСУРАВА*

Памёр мой вораг. Не балела
душа трагічнай навіною,
ды пачуццём незразумелым
пранікся я, нібы тугою.

Анафемстваваў нада мною,
ледзь не даводзіў да інфаркта...
Але сягоння над труною
што значыць выкрывальнасць факта?

Хоць нарабіў нямала шкоды
і жыў са славаю благою,
я разумею: назаўсёды
ён штосьці маё забраў з сабою.

Проза

Міхась ДАНІЛЕНКА

# ГОРКАЕ ВІНО ПЕРАМОГІ



## АБРАЗОК З НАТУРЫ

Да гэтага дня Церах Лявонавіч рыхтуецца загадзя.

З вечара дастае з паліцы бутэльку віна. Анучкай старанна праціраe пукатыя бакі, доўга глядзіць праз шкло на сонца. Светларужаватая вадкасць «Агдама» тонка адсвечвае на праменнях. Нікуды няварта віно. Калі Церах Лявонавіч упершыню кульнуў шклянку, дык папярхнуўся, доўга кашляў, адплёўваўся. Ды за апошнія гады прывык да яго, хоць, шчыра кажучы, не вельмі паважаў. /Раней ён прыхоўваў бутэльку «Сталічнай»/. Церах хмурыць лоб. Але маршчыны разгладжваюцца, ён кратае пальцамі парыжэлыя вусы, аб нечым думае. Потым знімае са сцяны здымак у рамцы. Там яны — маладыя. Ён і Тамара. Тамара абаперлася на яго плячо, глядзіць светла і радасна ў аб'ектыў.

Колькі ж гадоў здымку? Зрабіў яго армейскі фатограф у далёкім сорак пятым у Аўстрыі. Тады амаль па-летняму свяціла сонца. Высокае неба над Альпамі прашывалі строчкі трасіраў. Усе абдымаліся, смяяліся, цалаваліся, стралялі ўверх. І ва ўсіх на вуснах было адно слова:

— Перамога!

На вылінялай — амаль белай — гімнасцёрцы Цераха — два ордэны Чырвонай Зоркі. А ў медсястры Тамары — адзіны медаль «За баявыя заслугі».

— Не бядуй, — суцяшаў яе маладзенькі лейтэнант Церах. — Галоўная твая заслуга — што жывой засталася. Ногі, рукі цэлыя. Чаго ж яшчэ трэба?

А лейтэнанту, калі ляжаў на нейтральнай паласе, пасекла асколкамі левую нагу. І пасля ўжо стаў вандраваць са шпіталя ў шпіталь, пакуль не ампутавалі тую злашчасную нагу... Нічога. Пасля вайны з Тамарай жылі, дзякаваць богу, душа ў душу. Прыдбалі двух дзяцей — сына і дачку. А пасля дачакаўся ён і ўнукаў...

... Ды ўжо амаль дзесяць гадоў, як няма Тамары. А ён скрыпіць, бы струхлелая старадрэвіна. На непагадзь балюча ные Церахава нага. І часта сніцца яму адзін і той жа сон. Быццам ляжыць на нічыйнай паласе. У стылым небе вісіць поўня. Блішчыць снег. Ад марозу займае дыханне. Усё навокал знямела. А да яго па-пластунску паўзе ў кажуху з пашкуматаным крыссём Тамара. На баку ў яе — санітарная сумка... Паўзе і ўсё ніяк не можа да яго наблізіцца. І быццам уяўна чуе Церах такі дарагі і знаёмы да драбніц яе голас:

— Пацярпі, міленькі. Зараз перавяжу тваю нагу, каб не сышоў крывёю...

... Церах доўга ўглядаецца ў фатаграфію. А потым асцярожна вешае яе на сцяну. Хату нядаўна пабялілі нявестка з дачкой. Яны прыязджалі з горада — сын прывозіў на ўласнай машыне.

Потым Церах Лявонавіч доўга ўмошчваецца на ложку. Адвязаны пратэз прыстаўлены каля табурэта, тут жа побач. Раўнамерна чэкаюць ходзікі. У падпеччы шкрабецца мыш. Стары прыслухоўваецца, як часам быццам праваливаецца ў якую бездань яго сэрца. І тады Церах Лявонавіч прытойваецца, трывожна чакае: хоць бы не спынілася...

Паволі сутоньваецца. За акном чуваць, як недзе далёка, у суседняй вёсцы, брэшуць сабакі. Церах Лявонавіч змружвае павекі: намагаецца ўспомніць, як пазнаёміўся ў той далёкі дзень з Тамарай. Але ўжо і твар яе да драбніц успомніць не можа.

... А назаўтра яго будзяць свістам шпакі. Церах Лявонавіч з цяжкасцю падымаецца, крэкчучы, прыладжвае пратэз /раней былі мыліцы/, клыпае на двор да мыцельніка. Раніца абяцае быць пагожай. Там, дзе вось-вось пакажацца сонца, ружавее акрайчык небасхілу. Дрэвы ў садзе шалясцяць маладой лістотай.

Церах Лявонавіч вяртаецца ў хату. З шафы дастае выхадны касцюм. На ім прывінчаны тры ордэны. Ён потайкам азіраецца, быццам хто за ім сочыць. Праводзіць далоняй па ордэнах, а потым апранае пінжак. Патаўсцеў за год. Пінжак ледзь не трашчыць па швах. Церах Лявонавіч са скрухай ківае галавой. І сам сабе кажа:

— Цяпер можна ісці.

Бярэ маленькі зграбны кошык /яго прывезла некалі дачка/, кульбу і выбіраецца ў дарогу.

Вясковыя могілкі знаходзяцца не так і далёка ад вёскі — у бліжнім сасонніку. Але яму, інваліду, дабрацца туды не так проста. Суседскі сын — трактарыст, які меў матацыкл, аднойчы прапанаваў:

— Давайце, дзядзька, я вас мігам падкіну.

— Не, хлопча, — адмоўна пакруціў галавой Церах. — Салдат павінен сам дайсці. Дасць бог, як-небудзь дабяруся.

Парыпвае пратэз. У зямлю ўпіраецца палка. На руцэ пагойдваецца кошык. Церах Лявонавіч думаў, што першым сёння сустрэне ўзыход сонца, а яго сустракае каля сваіх веснічак суседаў сын:

— З днём Перамогі, дзядзька Церах! — віншуе ён і косіцца на кошык.

— Дзякуй, хлопча, — на хвіліну прыпыняецца інвалід. — Пайду вось пабуду са сваёй Тамарай Іванаўнай.

Трактарыст не прапаноўвае падвезці на матацыкле: ведае — не пагодзіцца на тое былы салдат.

Дзень разгараецца ясны і светлы. Блішчыць, як бурштынавая, раса. На дратах шчабечуць ластаўкі /іх прыкметна паменела ў апошнія гады/. Узбоч дарогі, на ўзболатку, жаўцее лотаць. Над галавой звіняць жаваранкі. Недзе ў вышыні мармыча, быццам малады баранчык, слонка. Усё жывое славіць жыццё. Стары салдат моўчкі прыпыняецца і доўга слухае птушыны спеў, куванне зязюлі з бліжняга лесу. Не, не дарэмна ён кожную вясну вяртаецца ад сына з горада, дзе зімуе, у родную хату. Пастарэла яна, як і Церах: на шыферы паявіўся мох, патрэскалася ліштва. Але ж гэта — яго дом. Адсюль ішоў ён спякотным летам сорак першага ў армію. Сюды вярнуўся з франтавой медсястрой у галодным сорак шостым...

Лагодна павявае майскі ветрык. Церах Лявонавіч змахвае з ілба пот, цяжка дыхае. Не, мусіць, не разлічыў ён сваіх сіл: усё цяжэй даецца кожная сотня метраў. Ды і то сказаць: сёмы дзесятак мадзее на грэшнай зямлі.

Агароджу могілак колькі гадоў назад пафарбавалі. Варта б абнавіць, ды ў сельсавеце, кажуць, няма грошай, каб купіць зялёнай фарбы. Усяго цяпер цяжка набыць. І часцяком задумваецца стары салдат: ці ж чакалі яны ў тым далёкім сорак пятым, што будзе вось так? Яму, былому салдату, жулікаваты прадавец аўтакрамы, якая раз на тыдзень наязджае ў іх маленькую вёсачку, прывозіць па талонах... аўсянку, а то паўкіло цвёрдай, бы з жалеза, кілбасы.

— Аўсяныя крупы, каб вы, дзядзька, падбрыквалі, як жарэбчык, — неяк недарэчы пажартаваў гэты хлюст...

Некалі светлы і багаты /крый божа, без талонаў!/ дзень, здавалася, прыйдзе ўжо заўтра, паслязаўтра, праз пару гадоў. І людзі будуць жыць шчасліва і радасна... Толькі — ці дачакаюцца таго дня яго ўнукі? Якімі наіўнымі яны былі!

Ля Тамарынай магілкі шапоча лістотай рабінка. Яе пасадзіў ён з сынам і дачкой. Са стэлы глядзіць юная дзяўчына ў берэце. На гімнасцёрцы — медаль. /У жонкі іншай фатаграфіі не было/.

— Як табе там, мілая? — дрыжачымі вуснамі шэпча Церах Лявонавіч і асцярожна прысаджваецца на лавачцы каля металічнай агароджы. — Вось і сустракаю я яшчэ адзін дзень Перамогі.

Церах змахвае няпрошаную слязу, раскрывае кошык і дастае бутэльку «Агдама». Зноў любуецца праз ружаватае віно на сонца. Налівае ў шклянку. На момант задумваецца...

Ветрык перабірае сівыя рэдкія валасы на галаве Цераха. На момант успамінае, як цягнула яго, лейтэнанта, медсястра з «нейтралкі», як будавалі свой першы дом; як люлялі першынца-сына...

На могілках пануе цішыня — такая, як у тым сне з поўняй на стылым небе. На чаборы зумкаюць пчолы. Снуюць па зямлі мурашы. Пахне жывіцай. Над зямлёй разгараецца, плыве майскі дзень Перамогі...

## ДЫЗАЙНЕР, ГРАФІК, ФАТОГРАФ



**У Дзяржаўным мастацкім музеі Інстытутам замежных сувязей Штутгарта, нямецкім цэнтрам Гётэ прапанавана выстава Антона Штанкоўскага /ФРГ/ — аднаго з патрыярхаў нямецкага мастацтва. На жаль, прозвішча гэтага майстра дагэтуль было нам амаль невядомае, хоць Штанкоўскі не проста прычыніўся да ідэй «канструктывізму», распрацаваных у 20-х гадах Малевічам, Лісіцкім, Татліным, Родчанкам і іншымі, а непасрэдна развіў іх, увёў у практычнае карыстанне.**

**Штанкоўскі далёка не дагматык канкрэтнага мастацтва. Ён, не абмежаваўшыся толькі квадратамі ды коламі, заняўся іх дынамікай, перспектывай, візуалізацыяй і г. д. як асновай для гармоніі і прасторавага мыслення. Як графік-дызайнер, ён выкарыстаў сваю канцэпцыю ў рэкламе, плакатах, часопісных распрацоўках, візуальных картках і фірменных знаках, афармленні гарадоў, колеравых сістэмаў упраўлення комплексамі. І ва ўсім, ад жывапіснага малюнка да гарадской сістэмы, прачытваюцца ідэі 20-х гадоў, — стварэнне парадку эстэтычнымі сродкамі, як шлях развіцця нашай цывілізацыі.**

**Тое, чаму не далі развіцца абставіны ў Расіі — краіне-пачынальніцы гэтага напрамку, увасобілася ў творчасці Антона Штанкоўскага і дае падставы гаварыць пра нямецкую школу авангарднага мастацтва.**

*На здымку: дырэктар музея Ю. Карачун і кіраўнік культурнага цэнтра Гётэ В. Багальянс на адкрыцці выставы А. Штанкоўскага.*

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

## ВЕЛІКОДНЫ ДАРУНАК «ВЯСНЫ»



**3 красавіка распачаўся традыцыйны музычны фестываль «Мінская вясна».**

**Вечар у Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі атрымаўся сапраўды святочным, урачыстым, значным. Выконваўся «Рэквіем» Д. Вердзі. За пультам Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі быў наш госць — лаўрэат Міжнароднага конкурсу заслужаны дзеяч мастацтваў Казахстана Цімур Мынбаеў, саліравалі спевакі з Санкт-Пецярбурга Лідзія Кліменка, Марына Філіпава, Барыс Карандасаў ды Уладзімір Квейзер.**

**Акадэмічная харавая капэла імя Р. Шырмы, аркестр, квартэт вакалістаў пад кіраўніцтвам знанага маэстра наладзілі шчырае адухоўленае музіцыраванне, якое захапіла шматлікую філарманічную публіку. «Рэквіем» і «біс» — паняцці ўзаемавыключальныя. Таму пасля выканання зала проста апладзіравала: доўга, стоячы, вітаючы аркестр і вакалістаў, дырыжора Ц. Мынбаева і мастацкага кіраўніка шырмаўскай капэлы Людмілу Яфімаву.**

*Фота С. ЛАБАНДЗІЕЎСКАГА*

*Тэатр*

# ПРЫТУЛІЎШЫСЯ ДА БЯСКОНЦАГА

***Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы «Віват, імператар!» паводле «Крэслаў» Э. Іянескі прадставіў Беларусь у Беластоку на святкаванні Міжнароднага дня тэатра***



Іянескавы «Крэслы» ўпершыню не зазналі поспеху 25 красавіка 1952 года «... пасля трыумфальнага правалу... у «Тэатр дэ Ланкры», які з таго часу так і знік. У зале сядзелі тры ці чатыры гледачы на трыста пяцьдзесят месц. Адамоў /Арцюр Адамоў, знаны французскі мастацкі дзеяч. — **Ж. Л.**/ быў у захапленні. Ён прыйшоў паглядзець п'есу, сядзеў на балконе і сказаў: «На сцэне — нікога, у зале — пуста, усё ўпустую і гэта — адметна». З таго часу, кажучы па шчырасці, і ў Лондане, і ў Нью-Йорку, і ў Парыжы, і ў процьме самага рознага памеру гарадоў колькасць паспяховых пастановак ці зраўнялася хоць з колькасцю заяўленых Іянескам крэслаў? А яна, «колькасць крэслаў, якія выносяць на сцэну, мусіць быць значнаю: мінімум сорак, але лепш яшчэ болей, калі можна...» «Няможна!» — выгукнула ўсеахопна наша тутэйшая тэатральная нішчымніца. «На жаль...» — войкнула эстэтыка незаможнага тэатра. Рэжысёру Уладзіміру Савіцкаму і мастаку Аляксандру Кашчэеву засталося скарыстацца з сякога-такога мэблевага ламачча, крута пайменаванага «падборам». Сярод іх і наканавана дзейнічаць двум асобам, рэжысёрскаю спагадлівасцю не даведзеных да патрабаванняў драматурга, — у таго, як вядома, дзейнічаюць Стары ды Старая. На сцэне персанажы выглядаюць на акцёрскія гады. А тое, што адзін другую часам кліча Семірамідаю, па-мойму, аніякіх звышзначэнняў не мае, ды ў зваротах Уладзіміра Рагаўцова да Тамары Мікалаевай-Апіёк ніякіх падтэкстаў не чуваць. Годная буржуазная прачка, Спадарыня й Спадар, Яна і Ён... Так сабе?..

Рэмаркі Іянескі вымагаюць сцэнічнага аб'ёму /«З дапамогаю святла маленькі пакой... павінен ператварыцца ў велізарны, падобны да інтэр'ераў Сабора... Так было на пастаноўцы Жака Маклера /1956/, дзякуючы дэкарацыям Жака Наэля» /, дакладнага, уладарнага рытму, жорсткага, адчувальнага тэмпу, асабліва перад фіналам. Увогуле Іянеску вельмі рупіць механічны, узмоцнены тэмпарытм відовішча, ён нават прадугледжвае магчымасць увесці ў дзеянне дублёрку Семіраміды, «... каб здавалася, што крэслы з'яўляюцца адначасова адусюль!» Крэслы, як можна ўжо зразумець, пазначаюць сваім з'яўленнем уяўных персанажаў, — адначасова яны і трызненне герояў — на мяжы вар'яцтва, і згадкі, і мары, і, падобна, мадэль дзівоснай бяссэнсіцы іхняга жыцця. І ў самога спадара Іянескі, груба кажучы, усё больш — пра гэтыя крэслы, яны «ў нейкі момант ужо не ўвасабляюць сабою пэўных персанажаў.., гэта натоўп, яны самі па сабе цяпер персанажы». «Тут мусіць быць фокус, нешта цыркавое». Але Уладзіміра Савіцкага абыходзяць пастановачныя фокусы, мовім так, — яны не пасуюць да сучаснага трактавання старой п'есы. Згаданае ўжо мэблевае ламачча — водгулле з разарванага часу, з Сальвадора Далі, з выкрутлівых каштарысаў незаможнага тэатра ды з адміністрацыйнага прывітання Нацыянальнага тэатра вытыркаецца з чорных сценак: белае на чорным, асабліва ўдала асветленае, часам нагадвае пра вобраз спектакля. Рэжысёра ж перадусім цікавяць вочы і дачыненні персанажаў. «І гэта — адметна, — кажу я, пераймаючы іранічнае захапленне або ўхвальныя кепікі /кплівую ўхвалу?/ Адамова, бо Спадар ды Спадарыня ўжо адным сваім выглядам трывалага шараговага буржуазнага гарту знішчыць парадаксальную шматзначнасць папяровых Іянескавых пабудоў. Яны відавочна прасцей. Яны — жуллівей ды даступней у сваёй шараговасці. Яны мусяць быць трагічна адасобленымі, раз'яднанымі, разведзенымі ды па-жыццёваму спакойна накрэсліваюць акцёры гэтую акалічнасць. Колькі трагедый саспела на нашых кухнях!.. На фарсавыя іх дачыненні не падобныя, на глыбінныя абагульненні не прэтэндуюць. З загадкавым жанрам відовішча, элегантнага і празрыстага, я так і не асвойталася, патрапіўшы, мусіць, у пастку, — паміж лірычным фарсам /ні чым не лепш за трагічны гратэск/ ды жорсткаю лірыкаю... Шмат што ўжо на пляцоўцы вырашае музыка Уладзіміра Кур'яна, імкнучы па сваіх драматургічных пуцявінах: надае падзеям водару, гледачам — асацыяцый, а раптоўна названаму персанажамі гораду Парыжу — смаку ды гуку, — магчыма, музыка і ёсць страчаны персанажамі сэнс жыцця? Ці ж не па яго з'явяцца яны на тэатральную пляцоўку?

... Яны з'явяцца, як і сыдуць — пасля светлавой адбіўкі. Чорны заднік выпусціць з тэатральных нетраў тых, чыё адзенне на якую хвілю сальецца з чорным фонам, рассакрэціўшы складнікі вобразаў: рукі-ногі-галовы... Перапрашаю. На падобных відовішчах час нібы спыняецца, бо развіццё падзей не прадугледжана, і трэба цярпліва чакаць, каб «увайсці» ў спектакль, прыструньваць уласны мастацкі досвед, а «няможна чакаць, седзячы ў фатэлі ці нават у крэсле». Гэта — сам Іянеска так мяркуе. Ведай, глядач, у чыіх крэслах месцішся!..

Уступны танец-экспазіцыю кожны з персанажаў пачынае са сваім крэслам. Не перасякаецца з партнёрам ні крокам, ні позіркам, ні мармытаннем. Акцёры выконваюць гэта чысцютка, — так, што глядацкая абазнанасць у Іянескавай спадчыне падказвае пра ўвасобленую пастку між нараджэннем і смерцю, дзе толькі й ёсць, што ўспаміны з усіх магчымых кніг ды жыццяў, а таксама крэслы, пра якія ўжо згадвалася. Але мэтр парадоксу, помніцца, перапыняў сам сябе: «Пастка? Ці вузкі перавал, шлях адкуль палягае толькі ўгару?» Угару — з жыцця ў жыццё, з увасаблення ва ўвасабленне, — і для беззаганных герояў трагічнага гучання, і для спадароў з буржуазна-задаволенага выгляду?

*Фестывалі*

# ШМАТАБЛІЧНАЯ ГІТАРА



Усё ж такі і ў наш час існуюць не толькі палітычныя баталіі, але і такія падзеі, якія прымушаюць паверыць у тое, што «ўзыдзе зара чароўнага шчасця». Менавіта такой падзеяй уяўляецца плённая традыцыя правядзення фестывалю гітарнай музыкі «Менестрэль» у горадзе Віцебску, які сапраўды становіцца фестывальнай сталіцай Рэспублікі Беларусь.

Назва фестывалю адрасуе нас да сярэднявечнай музычна-паэтычнай творчасці трубадураў, трувераў, майстарзінгераў, мінізінгераў, менестрэляў, апетых у творах Д. Вердзі «Трубадур», Р. Вагнера «Нюрнбергскія майстарзінгеры», К. Дэбюсі «Менестрэлі». Назва фестывалю мае сімвалічны сэнс — адраджэнне гітары, народжанай менавіта ў сярэднявеччы.

«Менестрэль-94» — трэці фестываль гітарнай музыкі. У адрозненне ад папярэдніх, якія праходзілі пад рубрыкай «Камерны фестываль класічнай гітары», сёлетні праводзіўся як «Камерны фестываль гітарнай музыкі». Гледачы мелі магчымасць пазнаёміцца з рознага роду гітарамі як у сольным выкананні, так і ў ансамблях з голасам, флейтаю, ударнымі інструментамі.

Сярод гітарыстаў, якія ўдзельнічалі і ў папярэдніх фестывалях, быў Міхась Радзюкевіч з Пецярбурга. Ён выступіў як сольна /з асабліва цікавым выкананнем «Астурыі» І. Альбеніса і «Серэнады» Ф. Шуберта/, так і ў ансамблі з флейтыстам С. Аракелянам. Свежасць трактоўкі твораў, тэхнічнае майстэрства, гукавая культура забяспечылі поспех музыкантам. У дзівосным сугуччы інструментальных галасоў уяўлялася італьянскае bell canto пры выкананні твораў Джуліяні, Кастальнова-Тадэскі.

Анатоль Альшанскі з Масквы выканаў праграму на ГРАН-гітары. Ён паказаў не толькі музычныя творы, але і створаную сумесна з У. Усцінавым новую разнавіднасць гітары — дванаццаціструнную з камбінаваным складам струн. Абрэвіятура ГРАН азначае «Гітара расійская акустычная новая». На ГРАН-гітары А. Альшанскі сольна выканаў уласны твор «Успамін», у якім адчуваюц-

«Я чытала гэтую п'есу... і думаю, што ў ёй няма нічога дзіўнага. Яна ўсяго толькі распавядае пра тое, што жыццё чалавечае — бессэнсоўнае, што яно ні да чаго не вядзе, нічому не слугуе, што ніхто нікога не запомніць і ніхто нікому нічога не растлумачыць» /Джо Алекс. «Смерць гаворыць ад майго імя»/. «Нам няма куды ісці, нам няма чаго сказаць» /Кнут Гамсун, «Голад», — за колькі гадоў да Іянескі!/. «Людзі родзяцца, каб пасля ўміраць» /голас з нацыянальнай літаратурнай скарбонкі — Купала за колькі часу да Гамсуна/. Знакамітага парадаксаліста Шэкспіра я ўжо проста баюся чапаць. Але ж уявіце, як гадзіну з нечым гэткія ісціны вам будуць даводзіць з першай, хоць і малой, нацыянальнай сцэны; паводле самога Іянескі, хоць і ў перакладзе Артура Вольскага; галасамі акадэмічных акцёраў, хоць сабе і пад парыжскія рэфлексіі Уладзіміра Кур'яна? Вы застанецеся, каб?..

Каб ацаніць адпаведнасць тэкставых скаротаў агульнай задуме рэжысёра? Паназіраць калейдаскоп агульначалавечых праяў? Я намагалася ўслухацца ды ўгледзецца ў акцёраў. У іх, змушаных вокамгненна даваць рады гумору, роспачы, укаханасці, нянавісці, гуллівасці, непрыстойнасці, хлусні, шчырасці, бо ніякіх масак, акуляраў, хусцінак, калонаў, шырмаў і проста выхадаў за кулісы не прадугледжана /апошніх няма/. Кроплю ні з лба, ні з носу не выцерці. Штовечаровыя іспыты на прафесійную трывушчасць!

Іспыты часам трымаюцца, часам — вытрымліваюцца. Тэкст драматурга з абсурдна-лагічным наборам падзей, здаецца, вымагае жарынкі гумару, апантанай гульні: «Як лёгка было б зразумець адно аднаго, каб не існавала слоў. Тады можна было б гаварыць і не рупіцца пра словы». І гэта пісаў Іянеска, — значыць, сам усё разумеў. Ягоны тэкст вымагае эфекту незавучанасці, але ад яе пакуль нікуды не падзецца. Пафас спараджае мастацкую хлусню. Выйсце — у натуральнасці, і акцёры, здаецца, вяртаюцца да яе спакваля. Самыя моцныя сцэны — акцёрскага паразумення з партнёрамі-крэсламі — даводзяць глядацкую ўразлівасць да трымцення. Кабета ў рызыкоўнай мізансцэне пажадліва спакушае... крэсла. Спадар абачліва фліртуе... з крэслам. Тамара Мікалаева-Апіёк выразна й годна абыходзіцца з тэкстам пра сына, які пакінуў іх, бацькоў, па-жаноцку вытрымлівае роспачны баль з уяўнымі гасцямі /на сцэне, насуперак сусветным папярэдніцтвам, не з'явіцца ніводнага дадатковага крэсла!/, пераканае Спадара ва ўяўным і адгаворыць даваць веры пэўнаму. Уладзімір Рагаўцоў перадусім выявіць непераможны мужчынскі эгаізм, не даючы свайму Спадару ніводнага шанцу выправіцца... Небяспечную чалавечую гульню ў палоне спыненага часу, у пастцы між нараджэннем і смерцю прадстаўляць два акцёры з двума крэсламі, ахвяруючы персанажам інтанацыі ды выявы станаў з іншых роляў. Мікалаева-Апіёк згадвае адну са сваіх лепшых — актрысы Алы Кастровай з «Курыцы» М. Каляды, у Рагаўцова далікатна прабіваецца позірк увасобленага на тэлебачанні героя Генрыха Бёля, які калекцыяніруе жыццёвыя імгненні... Акцёры, спагадаючы сваім сцэнічным шарагоўцам, ілюструюць думку, якую варта было з занатаваць для гледачоў спектакля, бо ён — не пра натоўп з крэслаў, якому нават двума чалавечымі галасамі няма чаго сказаць. «Канцовае, прытуліўшыся да Бясконцасці, мовіць: і так далей... Пачуўшы папрок у падладжванні да Невымернага, у намаганні спасцігнуць Неспасціжнае, Канцовае супакойваецца. Зміраецца. Змаўкае, так і не сказаўшы, што яму няма чаго сказаць. Праз гэта прайшоў кожны, кожны». На спектаклі. Бо Спадар ды Спадарыня выяўляюць ваяўнічы чалавечы стандарт. Стандарт, які чамусьці сталі блытаць з эталонам. Уявім, як Канцовае, агледзеўшыся, застаецца туліцца да Бясконцага, спадзявацца на шлях угару, катурхаць неўразумеласцю тэатральных гледачоў ды ратавацца Іянескам. Той, вызначыўшы для Канцовага прытулак, адумаўся, бо ўбачыў, як «усё пачнецца спачатку». Што? Бяссэнсіца чарговага жыцця. Але ж і буржуазнага, і не трагічнага выгляду Спадарыня й Спадар мусяць займець шанц на свой шлях угару ды тулянне ля Бясконцага!..

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

**P. S.** Акрамя названых, я выкарыстала цытаты з прац Э. Іянескі «Перарывісты пошук», «Аўтар і ягоныя задачы» ды рэмаркі да п'есы «Крэслы».



*На здымках: Уладзімір Рагаўцоў /Спадар/ у спектаклі «Віват, Імператар!» паводле Э. Іянескі; Тамара Мікалаева-Апіёк /Ала Кастрова/ у спектаклі «Курыца» М. Каляды*

*Фота Уладзіміра ШАХЛЕВІЧА*

ца водгаласы музыкі XVIII стагоддзя, імправізатарскае мысленне, манера рапсадычнага выказвання. У п'есе «Сцэнарый» нескладана ўлавіць блюзавыя і рокавыя стылістычныя кампаненты. Тонка адлюстравана спецыфіка дванацціструннага інструмента ў п'есе «Арыенталь». Пад арыгінальны гітарны акампанемент гледачы з задавальненнем успрынялі вядомыя рамансы Н. Харыто, М. Зубава, І. Спіро, І. Дунаеўскага ў артыстычным выкананні маскоўскай спявачкі С. Грыгор'евай.

Слухачы пазнаёміліся і з масквічом Іванам Смірновым, у мінулым гітарыстам групы «Арсенал». На электраакустычнай гітары ў ансамблі з выканаўцам на ўдарных інструментах Ігарам Джавар-Задэ прагучалі фрагменты з уласна створанай Смірновым сюіты «Карусельны дзед». Сюіта напісана ў адметнай манеры, што сінтэзуе фальклорныя, джазавыя, рокавыя прыкметы. Яркае ўражанне выклікалі фанічныя эфекты. Была паказана вялікая колькасць ударных інструментаў, а Ігара хацелася параўнаць з магам, у якога быццам па волі чароўнай палачкі грукаючыя, шаргатлівыя, звінячыя інструменты «размаўлялі» кожны на сваёй непаўторнай мове, а разам з голасам гітары зліваліся ў незвычайны аркестр.

З Рэспублікі Беларусь на фестывалі выступаў гродзенскі гітарыст Уладзімір Захараў, які раней паспяхова ўдзельнічаў у міжнародных конкурсах у Кракаве і Гданьску. На двух фестывальных канцэртах ён выканаў розныя праграмы. Удзячная публіка пачула Захарава як выканаўцу і кампазітара.

Рэпертуар Захарава вельмі шырокі і разнастайны. Дастаткова сказаць, што гучалі творы І. С. Баха /«Нямецкае барока»/, Ф. Тарэгі /Іспанія/, А. Тансмана /Польшча/, М. Понсэ /Мексіка/. Пры выкананні адчувальнае раставанне ўласнага «я» ў музычным «космасе». Уладзімір імкнецца як мага глыбей увайсці ў прыроду старадаўняга інструмента і робіць даступнымі і натуральнымі для ўспрымання поліфанію Баха, розныя маляўнічыя эфекты /цэлая серыя іх выкарыстаная ў «Дзіцячым альбоме» з дванаццаці п'ес, створаных Захаравым у пачатку творчага шляху, падчас навучання ў Гродзенскім музычным вучылішчы/. На фестывалі прагучалі тры творы, з'яднаныя ў трыпціх «Настальгія па ВКЛ», сталым з пункту гледжання выразных сродкаў, формаўтварэння. У трыпціх уваходзяць прэлюд і фугета на славянскія тэмы, фантазія «Грунвальдская пастараль», варыяцыі на літоўскую тэму «Памяці Чурлёніса».

Уладзімір Захараў выступіў дастойна, пацвердзіўшы правы на жыццё класічнай гітары на Беларусі.

На заключным канцэрце, акрамя асноўных удзельнікаў, выканаў уласныя творы С. Краўчук з Віцебска, маскоўскія юныя гітарысты выступілі з камерным аркестрам Віцебскага музычнага вучылішча пад кіраўніцтвам А. Бляўскага.

Фестываль «Менестрэль-94» адбыўся дзякуючы намаганням Віцебскага музычнага таварыства, Палаца культуры прафсаюзаў, кампаніі «Арт-марк» і шэрагу спонсарскіх арганізацый. Безумоўна, непасрэднаму ўспрыманню чароўных гукаў «Менестрэля» добра дапамагала цудоўная арганізацыя фестывалю, ветлівыя адносіны персанала, высокага ўзроўню сэрвіс. Да пабачэння, «Менестрэль»! Дай Божа — да сустрэчы праз год.

**А. ПЕСКІН,**
**музыказнаўца, выкладчык Гродзенскага музычнага вучылішча**

*На здымку: удзельнікі фестывалю «Менестрэль-94».*

Музыка

# ЦІ ЗАХАВАЕМ ТОЕ, ШТО МАЕМ?

***Усім вядома: каб вырасціць дрэва, трэба прыкласці шмат намаганняў, часу, працы. А што неабходна, каб выхаваць таленавітага музыканта? Як гэта ўдаецца рабіць сёння, у жорсткіх умовах рынку? Па адказ на гэтае пытанне я выправілася ў Музычны ліцэй пры Акадэміі музыкі.***

Камерны аркестр ліцэя добра ведаюць у рэспубліцы і за яе межамі. Нягледзячы на тое, што ён існуе толькі шосты год, калектыў мае салідны рэпертуар і не менш важкі спіс канцэртных выступленняў. Аркестр удзельнічае ў самых розных музычных фестывалях, выступае на радыё і тэлебачанні, пабываў з гастролямі на Украіне, у Расіі, Францыі і Германіі. Увогуле, жыццё гэтых навучэнцаў у многім падобнае да жыцця артыстаў-прафесіяналаў: рэпетыцыі, частыя пераезды, канцэрты, хваляванні на сцэне і радасць пасля ўдзячных апладысментаў слухачоў.

А пачыналася ўсё не адразу. Прынамсі, хай скажа пра гэта дырэктар ліцэя Уладзімір КУЗЬМЕНКА:

— У праграме падрыхтоўкі музыкантаў-струннікаў існуе кваліфікацыя «артыст аркестра», таму аркестр у ліцэі існаваў заўсёды. Але толькі 5 гадоў назад, калі яго ўзначаліў Уладзімір Паўлавіч Перлін, гэты калектыў зрабіўся канцэртным. Сёння канцэртны аркестр многа гастралюе, усе паездкі праходзяць з каласальным поспехам. Узровень майстэрства калектыву вельмі высокі і прадаўжае расці, гэта адчуваецца нават у старых праграмах.

Наша сустрэча з кіраўніком аркестра У. ПЕРЛІНЫМ адбылася пасля рэпетыцыі. Аркестр рыхтаваўся да выступлення ў Гомелі — увогуле, ішла звычайная праца.

— Уладзімір Паўлавіч, у чым спецыфіка вашага аркестра?

— Вы зараз назвалі творы, у якіх меламанам вядомая літаральна кожная нота. Ці не цяжка з такім рэпертуарам заваёўваць публіку?

— Гэтыя творы ніколі не дакучаюць. Вядома, для любога музыканта важна ўмець скампанаваць праграму так, каб яна спадабалася публіцы. Ды галоўная ўмова поспеху — гэта высокая якасць выканання і адметнасць інтэрпрэтацыі. Сваё майстэрства нашы выхаванцы даказваюць на сцэне кожны раз без усялякіх скідак на ўзрост.

— Уладзімір Паўлавіч, як вытрымліваюць дзеці такія нагрузкі? Ці не перашкаджаюць канцэрты і гастролі іхняй вучобе?

— Не толькі праца ў аркестры, а і наогул вучоба ў ліцэі — гэта вялікая праца. Але для таго, каб стаць сапраўдным музыкантам, неабходна выступаць на сцэне. Трэба навучыцца адчуваць залу і публіку. Таму нашы гастролі — гэта цудоўная школа. Дзеці набываюць вопыт канцэртных выступленняў і потым, стаўшы прафесіяналамі, вытрымліваюць нагрузкі ў міжнародных калектывах. Акрамя таго, у паездках дзеці бачаць свет, а пра тое, як гэта ўзбагачае іх, наўрад ці трэба казаць.

— Уладзімір Паўлавіч, што вас як кіраўніка, дырыжора сёння хвалюе?

— Шчыра кажучы, у нас шмат праблем і галоўная з іх — гэта захаванне калектыву на тым якасным узроўні, якога ён дасягнуў велізарнай працай і самааддачай кожнага выканаўцы. Дзякуй Богу, што ў асобе рэктара Акадэміі музыкі Міхаіла Казінца я знайшоў сябра і аднадумца: ён дазваляе маім былым выхаванцам, а цяпер студэнтам Акадэміі выручаць нас у цяжкія хвіліны. Я хачу падзякаваць усім, хто нам дапамагае ў гэты цяжкі час: Міністэрству культуры Беларусі, ДАВТу РБ, фірме «Сябры» і яе генеральнаму дырэктару Уладзіміру Барысавічу Драгуну. Без гэтай падтрымкі нам сёння проста не выжыць.



*Аркестр пад кіраўніцтвам У. Перліна — на сцэне філармоніі.*

*Фота В. МАЙСЯЁНКА*

— Наш калектыў сапраўды не зусім звычайны. Дзяўчаты і хлопцы заканчваюць вучобу ў ліцэі і пакідаюць яго сцены, таму склад аркестра пастаянна абнаўляецца. Але вядома, што добра «сыграны» аркестр, у якім музыканты разумеюць адзін аднаго і дырыжора з паўслова, ствараецца гадамі. Замест чатырох гадзін, якія мае для рэпетыцый кожны прафесійны калектыў, мы займаемся 10 гадзін у тыдзень.

— А што важней для вашага аркестра: канцэртныя выступленні альбо работа на рэпетыцыях?

— Мы не павінны забывацца, што гэта аркестр вучэбны. У маладога музыканта павінна быць школа і рэпертуар, які потым дазволіць яму свабодна адчуваць сябе ў любым прафесійным аркестры. Нашы навучэнцы ведаюць усю партытуру цалкам і партыю кожнага інструмента — вось чаму праграмы ў нас робяцца гадамі. І калі музыкант змог пасапраўднаму сыграць у аркестры «Маленькую начную серэнаду» Моцарта і «Серэнаду для струннага аркестра» Чайкоўскага, — ён можа сыграць усё.

Усё ж У. Перлін сказаў не пра ўсе праблемы. Аркестру патрэбная сталая матэрыяльная падтрымка. Вось такі прыклад: сёння адзін акорд струн для віяланчэлі каштуе каля 100 марак. Можна ўявіць сабе цану самога інструмента. Вялікае мастацтва каштуе вялікіх грошай, і ніякія дзяржаўныя субсідыі не могуць пакрыць такія выдаткі. Хочацца верыць, што гэтая публікацыя дапаможа аркестру знайсці новых сяброў і прыхільнікаў, якія здолеюць у гэты цяжкі час памагчы таленавітым дзецям.

**Таццяна ВАЛАЧКОВІЧ**

ЛіМ
ЧАСАПІС



## «ЗОРНАЕ» ЗДАРЭННЕ Ў ЗААПАРКУ



«Новая сцэна» Берасцейскага тэатра лялек, абвешчаная эксперыментальнай сцэнічнай пляцоўкай, наладзіла чарговую прэм'еру. Гэтым разам падставай для пастаноўкі сталі шчыраванні рэжысёра Сяргея Палешчанкава над п'есай Эдварда Олбі «Што здарылася ў заапарку».

Разам з ім ідэю ўвасаблялі мастак Настасся Фяцісава, а таксама акцёры Міхась Перапечка і Уладзімір Пестуноў /Тэатр драмы/ і Уладзімір Зайцаў, Іван Герасевіч, Анатоль Мацвееў /Тэатр лялек/.

У дзень прэм'еры, які супаў з Міжнародным днём тэатра, зала Берасцейскага тэатра лялек была паўнюткай. Пасля воплескаў ды кветак былі... ўзнагароды. За лепшую жаночую ролю сезона былі ўручаны прэміі Тамары Тэвасян /Старая ў «Крэслах» Іянэскі/, Юры Сарычаву па лініі СТД — за лепшую мужчынскую ролю /Янка ў «Янка-зух і нячысты дух» Сідарука/, Івану Герасевічу за шэраг роляў. І нарэшце, рэжысёру Сяргею Палешчанкаву засвяціла «Берасцейская зорка» — ганаровы пераходны прыз, заснаваны адным з прадпрымальнікаў-мецэнатаў, які пажадаў застацца невядомым.

«Берасцейская зорка» будзе штогадова ўручацца за адметныя пошукі й знаходкі ў тэатральным мастацтве, неўтаймаванасць у сцэнічнай рабоце, а перадусім — за шчырую адданасць тэатральным падмосткам.

І. Х.

*На здымку: сцэна са спектакля «Што здарылася ў заапарку». Міхась Перапечка /Пітэр/.*

*Фота У. ДОЛЬКІНА*

## «КАПУСНІК» — КАМПАЗІТАРУ



Юбілейны вечар лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, загадчыка музычнай часткі Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы, кампазітара Уладзіміра Кур'яна прайшоў у Рэспубліканскім доме работнікаў мастацтваў.

На вечары выконваліся творы таленавітага кампазітара, напісаныя да тэатральных пастановак, лялечных спектакляў, мультфільмаў. Спецыяльна для юбіляра купалаўцы падрыхтавалі вясёлы «капуснік».

*На здымку: сцэна з «капусніка», прысвечанага юбіляру.*

## У ВЯНОК ВЯЛІКАМУ КАБЗАРУ

***9 сакавіка споўнілася 180 гадоў з дня нараджэння вялікага ўкраінскага паэта Тараса Шаўчэнкі. З гэтай нагоды таварыства «Беларусь — Украіна» наладзіла ў Доме дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі вечар ушанавання слаўнага Кабзара. Ва ўрачыстасцях браў удзел госць з Кіева, вядомы ўкраінскі паэт Барыслаў Сцепанюк.***

***Друкуем яго выступленне на юбілейным вечары, а таксама вершы, прысвечаныя Тарасу Шаўчэнку, Максіму Багдановічу, Украіне, прачытаныя ім /пераклады зрабіў Уладзімір Паўлаў/.***

Барыслаў СЦЕПАНЮК

# «ПЕСНЯ ТАРАСОВА»

Ва ўкраінскім календары ёсць дзве Шаўчэнкавы даты, што прыпадаюць на вясну: 9 сакавіка, як дзень нараджэння, і 22 мая, калі прах паэта, згодна яго запавету, быў перавезены з Пецярбурга і перазахаваны на Чарнечай гары ў Каневе. Гэтым украінскі народ пабацькоўску выканаў апошнюю волю свайго вялікага сына, свайго прарока і абаронцы, каб яму і ў вечным сне чуўся равучы Дняпро, бачыліся шырокія разлогі мілай Украіны. Але другую частку Запавету: «Пахавайце ды ўставайце, кайданы парвіце, і варожай злой крывёю волю акрапіце» перадаў нам, яго нашчадкам, а з ім перадаў у спадчыну і сыноўскую любоў да Украіны і ў адначассе нянавісць да яе ворагаўсупастатаў:

**Свою Україну любіть,**
**Любіть її... Во время люте,**
**В останню тяжкую минуту**
**За неї господа молить.**

За сваю гісторыю Украіна перажыла нямала ліхалецця, і кожны раз, калі навісала пагроза, заўсёды звярталася да вобраза неўміручага Кабзара, да яго паэзіі, да гнеўнага болю, пякучага і вострага, як меч, — ці не адзінай зброі, каб выжыць і зноў выпрастаць свой тапаліны стан. Так было ў далёкія царскія часы; не намнога змянілася і тады, калі апынулася Украіна ў «сям'і вольнай новай».

Уладзімір Сасюра ў гады вайны напісаў вядомы верш «Любі Украіну», які ўжо самой назвай, не кажучы пра змест і метафару, натхняў роднае воінства на подзвіг, каб хутчэй разбіць лютага ворага і вызваліць «залатую Украіну», як называлі яе ў адной з песень таго часу. А калі вораг быў разбіты і выгнаны, калі Украіна ўваскрэсла /каторы раз у сваёй гісторыі!/, калі зноў зацвіла вішнёвымі садамі, — на любоў да яе было накладзена царственае табу. І кім? Самім ЦК, грознаю пастановай, у якой сам верш абвяшчаўся варожа-шкодным, а паэт, як звычайна, — нацыяналістам. А як жа тады з Шаўчэнкавым «Свою Україну любіть, любіть її»? У гэтым патрыятычным, праз вякі, перагуку нашых слаўных паэтаў уся трагічнасць долі Украіны, яе шматпакутнага народа, яе гісторыі.

У 1944 годзе, калі яшчэ не была скончана вайна, але была вызвалена ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў Украіна, Берыяй быў падрыхтаваны загад і, як звычайна, зацверджаны самім «бацькам усіх народаў», суровым павяленнем якога маглі быць дэпартаваны ўкраінцы. Спярша тыя, хто быў пад акупацыяй, затым тыя, хто, маўляў, варожа ставіўся да Чырвонай Арміі, а потым, як было пазначана ў загадзе, і рэшта народа. І гэта ў той час, калі кожны трэці салдат Чырвонай Арміі быў украінцам, у той час, калі на Украіне дзейнічалі найбольшыя партызанскія злучэнні Каўпака і Фёдарава і паўсюдна дзейнічалі падпольныя абкамы, райкамы, патрыятычныя групы.

Следам за дэпартацыяй паўночнакаўказскіх народаў і крымскіх татар у «Сибір неісходиму», як называў Шаўчэнка расійскую імперыю, маглі быць перасelены дзесяткі мільёнаў украінцаў. І толькі таму, як прызнаўся Мікіта Хрушчоў у адным са сваіх дакладаў, што нас было многа — мільёны, злавесны акт насілля не быў здзейснены.

Тарас Шаўчэнка! Прарок і страж народнай долі. Сумленне і любоў Украіны. Такім ён быў у жыцці, дапраўды праметэеўскім, такім ён паўстае ва ўсёй гістарычнай веліччы і сёння, на 180-я ўгодкі з дня нараджэння, якія адзначаюць не толькі Украіна, а і кроўна блізкія Беларусь і Расія, Балгарыя і Польшча, а таксама Злучаныя Штаты Амерыкі і нават Аўстралія.

Мара пра незалежнасць выношвалася спрадвеку. Да нас прыйшла жаданая пара зусім нядаўна, нават пасля таго, калі каланіяльная Афрыка вызначыла кожны народ у дзяржаву. Мы, як той казаў, вяршым зямную гісторыю, дзе на карту пастаўлены лёс кожнага народа, кожнай дзяржавы, як гістарычнага суб'екта. Ды, як гаворыцца, лепш позна, чым ніколі.

Мы часта звяртаемся да слова «дружба», якая яднала савецкія народы. А ці ж то была сапраўдная дружба, калі ў засек ссыпалася залатое зерне, а потым размеркавальнікам выдавалася кожнаму яго пайка, каб ты хоць існаваў, не кажучы ўжо пра абяцаны камунізм.

А і сапраўды, сама гісторыя злітавалася над лёсам нашых народаў, быццам з ухвалы самога Бога ў сваю хату завітала свая праўда і свая воля, калі была абвешчана Незалежнасць як дзяржаўны статус.

Але гэта толькі пачатак барацьбы, таму і засцерагае Шаўчэнка, дакладней заклікае, пасяляе ў душы веру ў неперамажнасць людскога духу:

**Борітеся — поборите,**
**Вам Бог помагає!..**

Украіна і Беларусь — найродныя сёстры не толькі на карце свету, а і спаконвеку, як толькі ступілі насустрач сваёй долі. Нас яднае Дняпро і нават Прыпяць з чарнобыльскім болем. Украінская і беларуская песні крыло ў крыло. Іх не змаглі абарваць нават цары-каралі, правадыры і генсекі.

Настольнаю кнігаю заўсёды быў «Кабзар» і для Максіма Багдановіча, і для Янкі Купалы, і для Якуба Коласа, ды і не толькі для гэтых волатаў паэтычнага духу. Месца Тараса Шаўчэнкі ў лёсе беларусаў дакладна перадаў у паэме «Тарасова доля» Янка Купала:

**Чаму ў сэрцы беларускім**
**Песня Тарасова**
**Адгукнулася, запела**
**Зразумелым словам?**

**Чаму вецер з Украіны**
**З думкаю крылатай**
**Далятаў да Беларусі**
**І шумеў над хатай?**

**Бо йшла доля беларуса**
**З доляй украінца**
**Аднолькова — ў поце, ў слёзах,**
**Церневым гасцінцам.**

**Бо згіналі аднолькова**
**Змалку да скanaння,**
**Шыі ў ёрмах і чакалі**
**Яснага світання.**

Наша шматвяковая гісторыя, гісторыя барацьбы і пакут, павярнулася нарэшце тварам да свайго народа, пачала адкрывацца такою, якою была на самай справе, адкінуўшы прэч імперскае тлумачэнне і Кіеўскай Русі, і Запарожскай Сечы, і паўстанняў Максіма Залізніка ды Кастуся Каліноўскага, калі мы, дапраўды, не мелі ўласнай гісторыі, а былі нямым прыдаткам вялікага самадзяржаўя. Незалежнасць — гэта найсправядлівейшая з узнагарод за ўсе стагоддзі нашага каланіяльнага быцця-небыцця і ў адначассе гістарычная справядлівасць, калі ўсе народы набылі права жыць па-свойму, не трацячы піетэту братэрства.

### ШАЎЧЭНКАВА ПАСЛАННЕ ЗЕМЛЯКАМ

**О землякі!**
**Мой боль трывогу б'е!**
**На грані часу вам пасланне шлю.**
**Няхай узрушаць словы вас мае, —**
**Звяртаюся, упрошваю, малю.**

**Калісьці ж запарожцамі былі,**
**Гулі гарматы, шаблі рэй вялі,**
**А выбавіці волю не змаглі**
**Не дзесь край свету —**
**На сваёй зямлі.**

**То хан, то круль, то цар,**
**А наша дзе ж**
**Ад веку мудрасць?**
**Бі, Сафія, ў звон:**
**Яшчэ, відаць, адзін храм узвядзеш**
**На костках,**
**Што дайшлі да нашых дзён.**

**О землякі! Мар'янка юных год**
**З бяльматымі вачыма ад імжы...**
**І вы, па-рабску што лізалі бот,**
**За шмат гнілое... каб вы не жылі.**

**Навокал пекла і навокал рай,**
**А люд адное мацеры — адзін.**
**Усім — Дняпро і стэп, і зелен-гай.**
**Дык будзь як сын,**
**А не як суччын сын!**

**Сам Бог усім, здаецца, надзяліў,**
**Лацінай нават: homo sapiens...**
**У горне гартаваў,**
**Ў адзіна зліў,**
**Каб гонар мець і права —**
**Волі сэнс.**

**Ды ўзніклі звадкі —**
**Смутная пара.**
**Пусціла самаздрада ўсё на злом.**
**Пайшлі шукаць дзесь мройнага дабра,**
**Пакінуўшы на страту родны дом.**

**Сыйдзіцеся абняцца —**
**Хто дзе ёсць! —**
**Хай песня кліч, як гетман, падае:**
**У ёй сляза і моц,**
**У ёй і смех і злосць,**
**І ўсе вы не чые —**
**Адвек свае.**

**Нашчадак, дзеля славы нарадзіся**
**У век жаданы**
**На здзяйсненне дзіў!**
**Як трыста год таму, не памыліся,**
**Каб край наш сам сабою вольны быў...**
**Прашу, малю!**

### ПАГОНЯ

**Скачуць верхнікі храбрыя міма**
**Праз даліны, бары — напралом!..**
**Багдановіча бачу Максіма**
**Сярод іх маладым ваяром.**

**«Ў белай пене праносяцца коні, —**
**Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...**
**Старадаўняй Літоўскай Пагоні**
**Не разбіць, не спыніць, не стрымаць»[1].**

**Беларусь — край блакітна-азёрны.**
**Гусі-лебедзі ў небе крычаць.**
**Той ніколі з дарогі не зверне,**
**Хто зацяўся, пакляўся дамчаць.**

**Колькі год і шляхоў тых прамчала,**
**Колькі іх засталося яшчэ?**
**Колькі тых, што бацькоў занядбала,**
**Колькім прошласць у сэрцы пячэ?**

**Зорка ўсходзіць і хмары, як сеці,**
**Выбірае з-над лесу ўгару...**
**Дай жа волю здабыць ці памерці,**
**Беларусь, і твайму ваяру.**

**Нечы голас азваўся з Пагоні,**
**Зоркі разам з Венерай мігцяць...**
**Тыя самыя хуткія коні,**
**Зацугляныя, ў пене ляцяць.**

**На камені ўжо Вострае Брамы**
**У Літве, і між іншых муроў**
**Тымі герб заіскрыў ваярамі,**
**З палачанскіх што мчалі бароў.**

**Ну, а твой, заазёраны краю**
**/Ветрык золь разганяе да дня/,**
**Хто твой герб да варот прыбівае,**
**На скаку асадзіўшы каня?..**

**Меч завіс над яго галавою,**
**Капыты конь узняў на дыбы —**
**І гатовы ён зноўку да бою,**
**Бо сама не прыходзіць сабою**
**Воля-волечка без барацьбы.**

### ЗВАРОТ ДА УКРАІНЫ

**У скрутнасці руіннае эпохі,**
**Што апаліла долю і маю,**
**Не адступіўшы ў веры анітрохі,**
**Як сын перад табою я стаю.**

**Якая ты цярплівая, зямліца,**
**/Капалі там, дзе пралілася кроў/:**
**Злятала варанне, каб пажывіцца**
**З Харольскіх Ям і з Бабіных Яроў.**

**Уваскрасіўшы памяццю ўсе мукі,**
**З чалом узнятым, гэтак як і я,**
**Няскораных бацькоў сыны і ўнукі**
**Іх ношу на свае ўзвалілі рукі,**
**А ўсім палеглым —**
**Пухам хай зямля!**

**Твой дом, мой родзе-прарадзе вячысты —**
**Непагасіма Купіна, каб знаць!..**
**Нашчадак запарожца, сёння існы,**
**Гуляйпале наважыўся ўзараць.**

**Цяплеюць промні сонца штохвілінна:**
**Пара, казача! Ратаю, пара!**
**Жыві навечна, маці Украіна,**
**З пшанічным снопам,**
**З поглядам Дняпра.**

[1] *З верша М. Багдановіча «Пагоня».*



Нямецкі народ нездарма называюць чэмпіёнам свету па дабрачыннасці. Сапраўды, дзе яшчэ, у якой краіне ў кожным горадзе і пасёлку, у кожнай царкве, амаль на кожным прадпрыемстве, нават у звычайных школах і вайсковых часцях створаны дабрачынныя арганізацыі і фонды? Не кажучы пра вялікую сетку прафесійных арганізацый дапамогі і міласэрнасці. Прыватных жа ініцыятыў і грамадскіх суполак — незлічоная колькасць, яны скрозь па ўсёй краіне.

З Беларуссю ў немцаў асаблівыя адносіны. Ужо восем год, з дня чарнобыльскай аварыі, да нас бесперапынна ідзе гуманітарная дапамога. Яна праяўляецца па-рознаму. Ад пасылак з простымі, першай неабходнасці, рэчамі да рэканструкцый і будоўляў у Беларусі медыцынскіх цэнтраў.

Некалькі дзён я правёў у нямецкім горадзе Мёнхенгладбаху і зрабіў там «з натуры» ілюстрацыі. Не толькі жыхарам гэтага заходняга горада, але і ўсім, хто шчыра дапамагае нам, хочацца перадаць вялікую падзяку.

**Анатоль КЛЯШЧУК**

# ЯК НАМ ЦЯПЕР ВАС НАЗЫВАЦЬ?



Райнер Осіг прайшоў вялікі шлях дабрачыннасці. Як прыватны ініцыятар ён дапамагаў і Польшчы, і Румыніі, і Югаславіі. Але Беларусь — цяпер яго другая радзіма. Райнер з'яўляецца адным з кіраўнікоў Мёнхенгладбахскай арганізацыі «Дзецям Чарнобыля». Аўтобус, які арганізацыя набыла для Беларусі, дастаўляе беларускіх дзяцей на адпачынак у Нямеччыну.



У Карлхайнца Мюлерса быў адзіны сын. Але ён трагічна загінуў. Жыццё пасля гэтага для бацькі страціла сэнс. Ён доўга і цяжка хварэў. Аднойчы Карлхайн знайшоў у газеце аб'яву, што ў іхні горад прыязджаюць дзеці-сіроты з Беларусі і ім патрэбен прытулак. Так у сям'і Мюлерсаў апынулася Аня Бялецкая. І аказалася, што дзяўчынка цяпер для іх — самая вялікая каштоўнасць на свеце.



Якую дапамогу можа зрабіць просты немец? Напрыклад, Гюнтэр Мало? За ўласныя грошы ён набывае цукеркі, вітаміны, цацкі, вопратку, пакуе ўсё гэта ў скрыні і адпраўляе іх у... Чавускі дзіцячы дом.

А клуб багатых людзей «Lion» не пашкадаваў нават 100 тысяч дойчмарак на медыцынскія прэпараты — для дзіцячай анкалогіі ў Бараўлянах.





Віталіка Паддубцава хочуць усынавіць. Усе фармальнасці з нямецкага боку для гэтага выкананы. Нават свой дом сям'я Ляндэн памяняла на большы, у якім ёсць два дзіцячыя пакоі.

Для Ёрга, Мартыны і іхніх дзяцей хлопчык з Магілёўшчыны стаў родным.



Валянцін Герайн. Ён паходзіць з паволжскіх немцаў. Эмігрыраваў у Нямеччыну і за некалькі год дасягнуў там вялікіх поспехаў у галіне лячэння анкалагічных захворванняў. І яшчэ дзейнасць гэтага чалавека — прыклад вялікага гуманізму. Ён вядзе шырокую прапаганду па дапамозе ахвярам чарнобыльскай трагедыі, стварыў фонд дапамогі і лечыць у сваёй клініцы ў Гумерсбаху дзяцей з Расіі і Беларусі. Дзякуючы намаганням доктара, у краінах СНД распачалося ўзвядзенне 15 буйных дзіцячых анакалагічных цэнтраў. Доктар Герайн адзначаны вышэйшай узнагародай Германіі.



Дом Бенігерсаў стаў для Светы Шульгі светлым астраўком жыцця. Тут яе заўсёды чакаюць, тут думаюць пра яе, любяць, шкадуюць. Сястрой стала ёй Ілона. А маленькая малпачка — сябрам.

Гэтым летам маленькая паляшучка наведае сям'ю Бенігерсаў ужо шосты раз.

Маленькаму Гену Галану ў доме Клеменса Котхэна гарантаваны і чысты ложак, і смачная ежа, і цікавыя гульні. Але самае галоўнае — беларускі хлопчык знайшоў тут, у нямецкай сям'і, цяпло, пяшчоту і любоў. Чаго не мае ён на радзіме.



га адраджэння. Ад яго першага мы пачулі слова «беларус». Калі ён першы раз прыйшоў да нас у школу, дык прынёс стос лемантароў «Палескі лемантар», што ўлажыла, здаецца, Цётка. Той лемантар каштаваў тры капейкі. Ксёндз Пацэвіч вёў беларускую нацыянальную працу ў школе з дзецьмі, а паза школай — з дарослымі. Ён заўсёды папераджаў, каб з ім гаварылі па-беларуску, ды не толькі з ім, а з усімі, сваймі й чужымі, каб і маліліся па-свойму. Ён упэўніваў, што Бог разумее й беларускую мову. Калі ў яго пыталіся, чаму ён заахвочвае, каб людзі з ім гаварылі па-беларуску й ці й ён беларус, Пацэвіч адказваў: «Не, я жмудзін, але калі я жыву між вас, дык я мушу знаць вашу мову», — ды, жартуючы, расказваў: «Адна баба спавядалася дый казала — «абгукала, аскаромілася...» — а я не ведаю, ці гэта вялікія грахі, ці можна яе разграшыць?».

Другі прапагандыст беларускай адраджэнчай ідэі ў нашай аколіцы па нацыянальнасці быў таксама чужынец — жыд. Гэта быў сын коранскага крамніка, Моська Фаін, прыяцель ведамага беларускага паэта-пісьменніка Змітрака Бядулі. Калі сталі выходзіць восеняй 1906 года беларускія газэты «Наша доля», а потым «Наша ніва», дык ён выпісваў гэтыя газэты, распаўсюджваў сярод сялян ды сам пісаў допісы пад псеўданімам М. Пекны.

Вясной 1906 года настаўнік-чарнасоценец Сцяпан Шчэмер выбыў з Коранскае школы. Восеняй жа прыехаў у нашу школу новы настаўнік, случчак, з мястэчка Раманава, Алісей Жалейка, дэмакрат і свядомы беларус. У нашай школе ён прабыў два гады. Ён нелегальна распаўсюджваў «Нашу ніву» сярод вучняў. Пры раздзявальні быў пусты маленькі пакойчык. Там у століку ляжалі нумары «Нашай нівы». Вучні на перапынках чыталі іх, спісвалі сабе вершыкі, што былі ім да ўспадобы, ды вывучалі іх напамяць. Мне помніцца яшчэ й цяпер вершык:

**Як я гляну на свой край,**
**Дык аж сэрца баліць:**
**Пусты нівы, няўраджай,**
**Як тут жыць, як пражыць!**
**Дарма гіне дабро,**
**К ліху праца ідзе.**
**Сей, чакай — не ўзышло,**
**А ўзышло — не цьвіце...**

Мой брат Казюк спісаў і вывучыў напамяць паэмку Ядвігіна Ш. «Дзед Завала»:

**Жоўтага пясочку,**
**Ды й таго замала,**
**Меў наш дзед па бацьку,**
**Зваўся ён Завала.**
**Ліхая хацінка**
**Саломаю крыта.**
**Ліхая адрынка,**
**Ды адно карыта...**

Настаўнік Жалейка апрача школьнай працы яшчэ займаўся падрыхтоўкай вучняў у сярэднія школы. У мяне было неадчэпнае жаданне асвоіць дробы, а дзеля гэтага патрэбна было навучыцца прыводзіць лікі да супольнага назоўніка. І вось я, па заканчэнні народнай школы ў 1907 годзе, месяц пахадзіў да настаўніка Жалейкі і авалодаў гэтым цудоўным сакрэтам навукі. У 1908 годзе настаўнік Жалейка паступіў у Віленскі вучыцельскі інстытут, а ў Корань прыехаў настаўнік Я. Лютарэвіч, па фаху аграном. Ён у Корані пры школе пасадзіў садок і прабыў тут да вайны.

У вайну, з 1914 па 1917 гады, у Коранскай школе працавалі недавучаныя падлеткі, якія панізілі аўтарытэт школы. У часе вайны польскія ўцякацкія арганізацыі мелі права ў Беларусі закладаць свае пляцоўкі й школкі. Хоць у Карэншчыне польскіх уцекачоў не было, але польскія шавіністы арганізавалі ў прыватным доме польскую школку. І гэтак ў Корані для беларускіх дзяцей былі дзве школкі — расейская й польская. У польскай школе была настаўніцай нейкая панна Марыя. Паколькі адукацыяй яна была на галаву вышэй за падлеткаў расейскай школы, дык шмат дзяцей пайшло ў ейную школку. Асабліва туды пайшлі перарасткі-дзяўчаты, якія ў ніякія школы не хадзілі. Пасля рэвалюцыі 1917 года, па намове ксяндза Г. Лімбо, апалячанага жмудзяка, у Корані расейскую школу зачынілі, а заміж яе заснавалі польскую школу, якая працавала, з перабоямі, аж да 1920 года.

Як ужо спаміналася, першыя парасткі нацыянальнае сведамасці ў Карэншчыне з'явіліся пачынаючы ад 1905 года. Але прайшло яшчэ нямала часу, пакуль былі заснаваны беларускія школы, пакуль паўсталі беларускія арганізацыі. Два вучні кораньскае школы, браты Казюк і Юзюк Гладкія, закончылі Хаценчыцкую двукласавую школу. Першы з іх змог пазней папоўніць сваю навуку ў вышэйшай пачатковай школе. У часе беларускага нацыянальна-палітычнага ўзруху 1917 года абодва яны нацыянальна загартаваліся, беручы ўдзел у працы беларускіх грамадскіх арганізацый да ўсебеларускіх з'ездаў. Казюк Гладкі пазней закончыў у Менску педагагічныя курсы ды прапрацаваў там два гады настаўнікам у беларускіх школах. Пасля гэтага ён мог ужо смела брацца за разбудову беларускага школьніцтва ў Карэншчыне.

Новым 1921 годам Казюк Гладкі прыехаў з Менска ў Корань ды заснаваў там першую беларускую школу ў Гаенскай воласці й ува ўсім Барысаўскім павеце. Настаўнікам-практыкантам у кораньскай школе стаў Юзюк Гладкі. У 1923 годзе Гладкі Казюк закладае другую беларускую школу ў Карэншчыне — у Красным Бары. У наступным, 1924, годзе засноўваецца ў Корані й культурна-асветны гурток, у які ўступае нацыянальна актыўная моладзь Карэншчыны. Цяпер жывое беларускае слова запанавала як у школе, гэтак і на сцэне. З 1925 года ўсе школы Карэншчыны сталі пераходзіць на беларускую мову, цяпер ужо ў абавязковым парадку.

Ад 1923 ужо года на кораньскую школу, мелі вока польскія «эндэкі», што сядзелі з партыйнымі білетамі ў Менску. Яны час-ад-часу прыязджалі з Менску з намерам перарабіць беларускую школу ў Корані на польскую на той падставе, што жыхарства Карэншчыны было пераважна «польскае» каталіцкае веры. Але народ і настаўнікі заўсёды давалі ім адпор. Толькі калі ў часе разгрому партыяй беларускай нацыянальна-культурнай працы ў БССР ў 1929/30 школьным годзе забралі кіраўніка школы Казюка Гладкага, кораньскую школу зрабілі паўпольскай, а ў 1931 годзе й зусім спаланізавалі. Колькі гадоў пазней, у 1935 годзе, з мовы польскай яе зноў перавялі на беларуска-расейскі жаргон.

Гэтым самым часам напалову была часова спаланізавана й Міхалкавіцкая беларуская школа, што была адчынена ў 1924 годзе. У годзе 1936 і яна была пераведзеная на беларуска-расейскі жаргон. Створаная народам і яго нацыянальным-актывам беларускае школьніцтва Карэншчыны перажывала асабліва цяжкую пару бальшавіцкага тэрору й нішчэння кадраў беларускага настаўніцтва. Колькі гадоў пазней беларускаму жыхарству й школьніцтву Карэншчыны давялося перажыць не менш трывожныя цяжкія гады ваеннага ліхалецця.

ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ
ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

Заснавальнікі:
Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Выходзіць з 1932 года

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | *(1932–35)* |
| *І.Гурскі* | *(1935–41)* |
| *А.Куляшоў* | *(1945–46)* |
| *М.Горцаў* | *(1947–49)* |
| *П.Кавалёў* | *(1949–50)* |
| *В.Вітка* | *(1951–57)* |
| *М.Ткачоў* | *(1957–59)* |
| *Я.Шарахоўскі* | *(1959–61)* |
| *Н.Пашкевіч* | *(1961–69)* |
| *Л.Прокша* | *(1969–72)* |
| *Х.Жычка* | *(1972–76)* |
| *А.Асіпенка* | *(1976–80)* |
| *А.Жук* | *(1980–86)* |
| *А.Вярцінскі* | *(1986–90)* |

Галоўны рэдактар
Мікола ГІЛЬ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ
Андрэй ГАНЧАРОЎ
*першы намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась ЗАЛОСКА
Міхась ЗАМСКІ
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ
Барыс ПЯТРОВІЧ
*намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась СВІРКА

Пошта

# ПОМНІК НА БРАЦКАЙ МАГІЛЕ

У маі 1993 г. у Жыткавічах адбылася значная для такога невялікага гарадка падзея: адкрыццё помніка на брацкай магіле воінаў і партызан, загінуўшых у гады мінулай вайны. Схіленая постаць салдата — папярэдні, штампаваны з гіпсу ў тысячных тыражах помнік 1956 года састарэў і маральна, і вонкава. Але ж была ў тым помніку ўрачыстасць мемарыяла мясцовага значэння, а ў сціплых і строгіх плітах, на якіх выбіты прозвішчы пахаваных, — зразумеласць і даступнасць...

Цяпер у скверыку каля чыгуначнай станцыі ўстаноўлены новы помнік. Сучасны. Ён адліты ў мінскай цэнтральнай архітэктурнай майстэрні скульптарам Ю. Платонавым. Дзве няпэўнай прыналежнасці фігуры: адна з заламанымі ўадчаі рукамі, другая — схіленая ў цяжкім горы... Калі б не тлумачэнне самога скульптара на адкрыцці помніка, а потым у раённай газеце, далібог, не здагадаешся, што задумаў аўтар.

«Я не ўхваляю прамалінейнага вырашэння вобраза. Калі, напрыклад, гэта магіла воінаў, дык абавязкова павінна быць выява салдата... Я мыслю па-філасофску, і ў дадзеным выпадку імкнуся адлюстраваць процістаянне дабра і зла, цёмнага і светлага, узнёслага і нізкага, а канкрэтна, звярнуцца да патрыятызму савецкіх людзей у барацьбе з гітлерызмам, з насіллем. Калі хочаце, можна зазірнуць яшчэ глыбей, у спаконвечныя, біблейскія часы — супрацьстаянне Каіна і Авеля...»

Такія погляды, думаецца, могуць быць рэалізаваны ў мастацкім творы, прызначаным для музея, мастацкай выставы, але — не брацкай магілы. Бо філасофія скульптара, зразумелая далёка не кожнаму.

Не знайшлі свайго пэўнага месца ў новым мемарыяле мармуровыя дошкі з прозвішчамі воінаў. Аднесеныя ўбок, яны губляюцца ў агульным плане, іх можна заўважыць, толькі добра ўгледзеўшыся. Не стае сціплай ўрачыстасці, прастаты і зразумеласці.

На помніку, ля яго падножжа, выбіты радкі з верша А. Вярцінскага:

**Вы паўшымі даражыце,**
**Ты першая ўвага — жывым.**
**Адзін аднаго беражыце...**

Самі па сабе гэтыя словы не вельмі выразныя і не зусім падыходзяць, бо недакладна перадаюць сутнасць помніка — сімвала народнага гора. Другі радок да таго ж з граматычнай памылкай, якая змяняе сэнсавае значэнне і сведчыць аб няведанні беларускай мовы заказчыка, скульптара альбо рабочых майстэрні: відавочна, што трэба не **ты**, а **ды**... Памылка, якая абавязкова павінна быць выпраўлена.

Восенню 1956 г., калі перазахоўваліся астанкі воінаў і партызан з усіх вёсак раёна ў раённы цэнтр, былі перанесены з в. Людзяневічы пахаваныя там у ліпені 1944 г. лейтэнант А. Перуноў, сяржанты І. Рындзін і А. Какаулін. Прозвішчы іх ёсць на плітах у Жыткавічах, тым не менш яны пазначаны і ў Людзяневічах на тым жа самым тыражаваным помніку. Дык што, воіны пахаваны адначасова ў двух брацкіх магілах ці помнік у Людзяневічах устаноўлены на пустым месцы? Адбылося перазахаванне і з в. Рудня. Дакладна вядома, што там на пліце было імя партызанскага сувязнога В. Бодзюга. Але ў раённым спісе яно «згубілася», і цяпер не значыцца на брацкіх магілах ні ў Жыткавічах, ні ў Рудні.

Не адкрыем ісціну, сказаўшы, што такія помнікі ствараюцца для выхавання моладзі. Але якое выхаваўчае значэнне мае помнік у Жыткавічах? Ды і па мастацкіх вартасцях ён, пэўна, далёкі да дасканаласці. Нельга сказаць, што не патрэбна такое мастацтва, але ў кожнага твора мастацтва — сваё месца, сваё прызначэнне. І калі не прытрымлівацца гэтага, мастак рызыкуе быць незразумелым тымі, для каго ён творыць.

**Васіль ФЕРАНЦ**



**Калектыў часопіса «Беларусь» смуткуе з прычыны смерці мастака КРУГЛОВА Уладзіміра Аляксандравіча і выказвае спачуванне яго сям'і і блізкім.**

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск,
вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі 332-525
пісьмаў і грамадскай думкі *331-985*
літаратурнага жыцця *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі *332-204*
паэзіі і прозы *332-204*
музыкі *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў *332-462*
навін *332-462*
мастацкага афармлення *332-204*
фотакарэспандэнт *332-462*
бухгалтэрыя *268-640*



Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах
Друкарня "Беларускі Дом друку"
Індэкс 63856. Наклад 17.000.
Нумар падпісаны 14.04.1994 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

